## ЛІПЕНЬ

| | | |
|---|---|---|
| 1 | сб | Галіны, Атона |
| 2 | чц | **Маці Божай Будслаўскай,** Бернардына |
| 3 | пт | Тамаша, Анатоля |
| 4 | сб | Альжбеты, Мальвіны |
| 5 | нд | **XIV нядзеля звычайная** Антонія, Марыі |
| 6 | пн | Тэрэсы, Дароты |
| 7 | аў | Вілібальда, Бенедыкта |
| 8 | ср | Эдгара, Кіліяна |
| 9 | чц | Веранікі |
| 10 | пт | Віталіса, Антонія |
| 11 | сб | Бенедыкта, Вольгі |
| 12 | нд | **XV нядзеля звычайная** Аркадзя, Грэты |
| 13 | пн | Андрэя, Бенедыкта, Яўгеніі |
| 14 | аў | Каміла, Якуба, Генрыка |
| 15 | ср | Банавентуры, Уладзіміра |
| 16 | чц | **НМП з гары Кармэль** |
| 17 | пт | Ядвігі, Аляксея |
| 18 | сб | Сымона, Брунона |
| 19 | нд | **XVI нядзеля звычайная** Вінцэнта |
| 20 | пн | Чэслава, Гераніма, Малгажаты |
| 21 | аў | Лаўрэнція, Віктара |
| 22 | ср | Марыі Магдалены |
| 23 | чц | Брыгіды, Апалінарыя |
| 24 | пт | Кінгі, Крыстыны, Барыса |
| 25 | сб | Якуба, Крыштафа |
| 26 | нд | **XVII нядзеля звычайная** Яўхіма, Анны, Міраславы |
| 27 | пн | Натальлі, Інакенція, Бертольда |
| 28 | аў | Віктара |
| 29 | ср | Марты, Олафа, Людмілы |
| 30 | чц | Пятра, Леапольда, Юліты |
| 31 | пт | Ігнацыя, Любаміра, Алены |

### *Малітва да Маці Божай Унебаўзятай*

*Маці Божая і Маці мая,*
*Цябе Анёлы з душою*
*і целам перанеслі ў Неба,*
*а Сын Твой наймілейшы*
*ўкаранаваў Цябе.*
*Ён учыніў Цябе Каралеваю*
*Неба і Зямлі і таму,*
*о Марыя,*
*Ты і мая Каралева.*
*Усім сэрцам і ўсёю душою*
*хачу я належаць Табе*
*і служыць Табе верна.*
*Будзь Заступніцаю маёю*
*і Валадаркаю. Навучы мяне*
*Тваім дабрадзейнасцям:*
*пакоры, спакою, дабрыні,*
*каб, наследуючы Цябе,*
*мог я Табе і Сыну Твайму*
*падабацца. Амэн.*



## ЖНІВЕНЬ

| | | |
|---|---|---|
| 1 | сб | Альфонса, Надзеі |
| 2 | нд | **XVIII нядзеля звычайная** Эўзэбія, Стэфана |
| 3 | пн | Лідзіі, Далмацыя |
| 4 | аў | Яна, Дамініка |
| 5 | ср | Маці Божай Снежнай Освальда |
| 6 | чц | **Перамяненне Пана**, Славы |
| 7 | пт | Каетана, Сыкста, Клаўдзіі |
| 8 | сб | Дамініка |
| 9 | нд | **XIX нядзеля звычайная** Рамана, Тэрэсы, Ірэны |
| 10 | пн | Лаўрэнція, Філамэны, Х'юга |
| 11 | аў | Клары, Зузанны |
| 12 | ср | Інакенція, Гілярыі |
| 13 | чц | Іпаліта, Максіма |
| 14 | пт | Максімільяна, Марыі Кольбэ, Марцэлія |
| 15 | сб | **Унебаўзяцце НМП,** Марыі |
| 16 | нд | **XX нядзеля звычайная** Стэфана, Роха |
| 17 | пн | Яцка, Мірона |
| 18 | аў | Алены, Ілоны |
| 19 | ср | Яна, Балеслава |
| 20 | чц | Бернарда, Сабеслава |
| 21 | пт | Пія X, Жаны |
| 22 | сб | **НМП Каралевы,** Яна |
| 23 | нд | **XXI нядзеля звычайная,** Ружы |
| 24 | пн | Барталамея, Эміліі |
| 25 | аў | Людвіка, Юзафа |
| 26 | ср | **НМП Чэнстахоўскай** |
| 27 | чц | Монікі, Цэзара |
| 28 | пт | Аўгустына, Патрыцыі, Гермеса |
| 29 | сб | Яна Хрысціцеля, Сабіны |
| 30 | нд | **XXII нядзеля звычайная** Фелікса, Малгажаты |
| 31 | пн | Райманда, Багдана |

## ВЕРАСЕНЬ

| | | |
|---|---|---|
| 1 | аў | Браніславы, Ідзія |
| 2 | ср | Апалінарыя, Севярына |
| 3 | чц | Рыгора, Ізабэлі |
| 4 | пт | Разаліі, Ліліяны |
| 5 | сб | Віктарына, Дароты |
| 6 | нд | XXIII нядзеля звычайная, Бэаты |
| 7 | пн | Мельхіёра, Рэгіны |
| 8 | аў | **Нараджэнне НМП**, Марыі, Тамаша |
| 9 | ср | Пятра, Сяргея, Анэлі |
| 10 | чц | Мікалая, Пульхерыі |
| 11 | пт | Гіацынта, Прота, Яна |
| 12 | сб | Найсв.Імя Марыі, Гвідона |
| 13 | нд | **XXIV нядзеля звычайная** Яна Хрызастома, Яўгеніі |
| 14 | пн | **Узвышэнне Св.Крыжа** Раксаны, Разанны |
| 15 | аў | НМП Балеснай, Альбіна |
| 16 | ср | Карнэлія, Кіпрыяна, Эдзіты, Людмілы |
| 17 | чц | Роберта, Хільдэгарды |
| 18 | пт | Станіслава Косткі |
| 19 | сб | Януарыя, Тэадора, Эміліі |
| 20 | нд | **XXV нядзеля звычайная** Францішка, Эўзэбіі |
| 21 | пн | Мацвея, Яна |
| 22 | аў | Маўрыкія, Янаша |
| 23 | ср | Тэклі, Лінуса |
| 24 | чц | Герарда, Германа |
| 25 | пт | Уладзіслава, Аўрэліі |
| 26 | сб | Кузьмы, Дзям'яна, Тэрэсы, Лаўрэнція |
| 27 | нд | **XXVI нядзеля звычайная,** Вінцэнта |
| 28 | пн | Вацлава, Тымона, Геліадора |
| 29 | аў | Міхала, Габрыэля, Рафала |
| 30 | ср | Геранімa, Рыгора, Францішка |

**1998**



*Ян Павел II*

# Уваскрослы Хрыстус – надзея свету

### *"Resurrexit tertia die…*

На трэці дзень уваскрос…" Сёння разам з цэлым Касцёлам паўтараем гэтыя словы з асаблівым хваляваннем. Паўтараем іх з тою самаю вераю, з якою, менавіта ў гэты дзень, былі яны ўпершыню прамоўленыя. Прамаўляем іх з той самаю перакананасцю, якую ў гэту фразу ўкладвалі навочныя сведкі падзеі. Наша вера паўстае з іхняга сведчання, а сведчанне нарадзілася з убачанага, пачутага, з непасрэднай сустрэчы, з дотыку рук, ног, з канстатацыі слядоў мукі. Сведчанне нарадзілася з факту; так, на трэці дзень Хрыстус паўстаў з мёртвых. Сёння мы паўтараем гэтыя словы абсалютна проста, паколькі паходзяць яны ад людзей простых. Паходзяць ад любячых сэрцаў, ад людзей, якія да такой ступені любілі Хрыста, што нічога іншага не былі здольныя пераказваць і абвяшчаць, як толькі праўду пра Яго…"

*(Першы Вялікдзень пантыфікату)*

### *Адкрывае эпоху вялікага прабачэння*

Хрыстус – наш спакой (пар. Эф 2,14). Аб'яўляючыся Апосталам пасля свайго змёртвыхпаўстання, Ён, Ягнё Божае, Той, хто згладжвае грахі свету (пар. Ян 1,29), адкрывае эпоху вялікага прабачэння, ахвяруючы яе людзям праз дар Духа Святога і сакрамэнты Касцёла: "Каму адпусціце грахі, таму будуць адпушчаны; на кім пакінеце, на тым астануцца (Ян 20,23).

Таму спакой, які дае Уваскрослы, – гэта трыумф Божай Міласэрнасці… нам, людзям сённяшняга неспакойнага часу, якія вагаюцца паміж пустэчаю самазахаплення і мукамі роспачы, больш чым калі-небудзь дасюль патрэбны сведчанні міласэрнасці.

*(Перад малітваю "Анёл Панскі", 10 красавіка 1994г.)*

### *Вучыць адвазе ў абароне жыцця*

Вось радасная навіна! Уваскрослы Езус ёсць сапраўдным "Евангеллем жыцця". Ён перадае чалавеку Боскае жыццё, годнасць дзіцяці Божага. Ад Апосталаў пераняслі мы гэту добрую навіну, з якою павінны дайсці да сэрца кожнага чалавека і ўвесці яе ў самае нутро людскога грамадства.

Такім чынам, Вялікдзень змёртвыхпаўстання жыве таксама й сёння, а Яго нястрымная сіла працягвае абуджаць радасць у сэрцах тых, што давяраюць Пану жыцця і вучаць нас паважаць кожнага чалавека, а таксама адважна і ўпэўнена абараняць жыццё.

*(Перад малітваю "Regina caeli", 17 красавіка 1995г.)*

### *Дае сілу будаваць лепшую будучыню*

Пан паўстаў з мёртвых і дае ўсім, хто мае ўдзел у Яго перамозе над смерцю, адвагу і сілу, каб маглі надалей будаваць новае чалавецтва, адкідваючы ўсялякія формы насілля, сектанства і несправядлівасці. Пан жыцця ўваскрос у моцы, прыносячы з сабою любоў і справядлівасць, павагу, прабачэнне і паяднанне. Толькі Той, хто з небыцця паклікаў свет да жыцця – толькі Ён мог сарваць пячаці гробу, толькі Ён мог стацца закваскаю Новага Жыцця для нас, падданых паўсюднаму праву смерці.

*(З паслання "Urbi et Orbi", красавік 1996г.)*

### *Дапамагае нам перамагаць зло*

"Камень, што адкінулі будаўнікі, стаўся галавой вугла" (Пс 118). Гэты прарочы версэт Псальму дапамагае нам зразумець праўду аб змёртвыхпаўстанні Хрыста. Ён выражае таксама праўду пра міласэрнасць, якая аб'явілася ў змёртвыхпаўстанні: любоў атрымала перамогу над ґрахом, а жыццё над смерцю. Гэта праўда складае ў пэўнай ступені саму сутнасць Добрай Навіны. І таму Хрыстус можа сказаць: "Перастань баяцца". Ён можа паўтарыць гэтыя словы кожнаму, хто цярпіць фізічна альбо духова.

*(У часе святой Імшы ў касцёле Святога Духа ў Рыме, 23 красавіка 1995г.)*

### *Крыніца нашага паўстання з мёртвых*

Уваскрослы Хрыстус – пачатак і крыніца нашага будучага змёртвыхпаўстання. Атрыманая Ім канчатковая перамога над смерцю становіцца праз Яго лёсам чалавецтва ў той меры, у якой яно атрымлівае плады адкуплення. Гэта працэс дапушчэння да "новага жыцця", да "вечнага жыцця", які ідзе да канца дзён. Дзякуючы гэтаму працэсу, фармуецца новае чалавецтва, люд адкуплены, сабраны ў Касцёле, сапраўдная супольнасць змёртвыхпаўстання. Напрыканцы часоў усе паўстануць з мёртвых, і тыя, што належалі да Хрыста, будуць мець паўнату жыцця ў хвале, канчаткова рэалізуюцца ў супольнасць адкупленых праз Хрыста, "каб Бог быў усім ва ўсіх" (пар. 1Кар 15,28).

" Памятай пра Езуса Хрыста, які паўстаў з мёртвых". Гэтыя словы апостала Паўла адкрываюць перад намі надзею сапраўднага жыцця ў часе і ў вечнасці.

*( У часе агульнай аўдыенцыі, 15 сакавіка 1989г.)*

*Пераклад Крыстыны ГУРСКАЙ*

ДА ЮБІЛЕЮ 2000 ГОДА НАРАДЖЭННЯ ХРЫСТА




# Дары Духа Святога

## Дар пабожнасці

У той час, як дар багабоязі залечвае ў нашых душах раны пыхі, дар пабожнасці дадзены нам Духам Святым дзеля таго, каб перамагчы эгаізм, які з'яўляецца перашкодай да з'яднання чалавека з Богам. Сэрца хрысціяніна не павінна быць ані халодным, ані раўнадушным. Яно мусіць быць чулым і адданым, бо інакш не зможа ступіць на тую дарогу, на якую яго кліча Бог, які з'яўляецца Любоўю.

Святы Дух удзяляе чалавеку дар пабожнасці, натхняючы яго на сыноўні зварот да свайго Створцы. "Атрымалі духа ўсынаўлення,– кажа нам апостал,– у якім і клічам: "Абба, Ойча!" (Рым 8,15). Гэты дар робіць душу чулай да ўсяго, што тычыцца ўшанавання Бога… Душа, якая жыве дадзеным ёй дарам пабожнасці, пастаянна прагне Божае хвалы. Яна жадала б усіх людзей давесці да ног Збавіцеля, а знявагі, якія Ён атрымлівае, для яе асабліва балючыя. Напоўненая сыноўняй адданасцю Айцу, які ёсць у небе, душа гатовая выканаць кожнае Яго пажаданне. Яна цалкам падпарадкуецца Яго Провіду.

Вера такой душы простая і жывая. Такая душа сама з любоўю аддаецца Касцёлу, заўсёды гатова адрачыся ад самай каштоўнай сваёй ідэі, калі тая ідэя ў чымсьці адрозная ад навучання Касцёла альбо яго практыкі.

Адданасць Богу, якая бярэ свой пачатак з дару пабожнасці, прычыняючыся да з'яднання душы з яе Створцам праз сыноўнюю прывязанасць, яднае яе таксама з усімі стварэннямі, бо яны – справа Божай моцы і належаць Яму.

Хрысціянін, ажыўлены дарам пабожнасці, у першую чаргу прывязваецца да святых, якія радуюць Бога ў вечнасці і якія назаўсёды радуюцца з ім. Такі хрысціянін моцна любіць і шануе Марыю. Ён захапляецца цудамі і пабожнасцю, шануе святыя рэліквіі.

Дар пабожнасці дапамагае хрысціяніну бачыць самога Хрыста ў тых, хто жыве побач з ім. Таму яго зычлівасць да братоў не мае выключэнняў, яго сэрца здольнае прабачыць несправядлівасць, яно цярплівае да людской недасканаласці. Ён спачувае ўбогаму, клапоціцца пра хворага. Ён заўсёды гатовы плакаць з тымі, хто плача, і радавацца з тымі, хто радуецца.

Такім ёсць, о Божы Дух, жыццё тых, якім Ты ўліў дар пабожнасці ў іхнія душы. Гэтай цудоўнай дабрадзейнасцю Ты аддаляеш эгаізм, які здольны дэфармаваць іхнія сэрцы, звальняеш іх ад агіднага раўнадушша да братоў, а таксама замыкаеш іхнія душы перад зайздрасцю і нянавісцю. Дзеля ўсяго гэтага чалавеку патрэбны быў дар пабожнасці. Калі ж ён закрануў яго сэрца, яно ажыло чулай прывязанасцю да ўсяго, што выйшла з Божых рук. Учыні, каб гэты каштоўны дар прынёс нам свой плён.

Не дазволь, каб ён быў задушаны любоўю чалавека да самога сябе. Езус даў нам адвагу, кажучы, што нябесны Айцец "загадвае сонцу свайму ўзыходзіць над добрымі і благімі" (Мц 5,45). Не дапусці, Божы Дух Праўды, каб гэтае бацькоўскае прабачэнне было для нас згубным, але няхай у нашых душах прарасце зерне адданасці, добрай волі і спачуванне, якое Ты пасеяў у тую хвіліну, калі ўзяў яе на ўласнасць праз святы хрост.

### Слодыч Святла, Дух Святы…

*Хто ты, слодыч святла, што заліваеш мяне*
*і асвятляеш ноч майго сэрца?*
*Ты вядзеш мяне рукой мацярынскай.*
*Пакінеш – і не ступлю я наперад*
*нават на крок.*
*Ты прастора, што атачаеш мой нябыт*
*і ў якой Ты ўтоены.*
*Пакінеш мяне – і ўпаду я ў прорву нябыту,*
*з якога паклікаў мяне Ты ў існасць.*
*Бліжэйшы Ты мне, чымсьці сама я сабе,*
*Ты глыбей за маё асабістае "Я".*
*Ды ніхто не дакранецца Цябе*
*і не зразумее ніхто.*
*Ніводнае імя не здольнае зняволіць Цябе*
*Дух Святы, Любоў спрадвечная!*
*Прыйдзі!*

Благаслаўлёная Бенедыкта ад Крыжа
(Эдыта Штайн)





КАТЭХІЗІС КАТАЛІЦКАГА КАСЦЁЛА

# Сапраўдная радасць

**На тэму радасці і смутку ў Святым Пісанні можна знайсці зусім, здавалася б, супрацьлеглыя выказванні: "Благаслаўлёныя засмучаныя, бо яны суцешацца" (пар. Мц 5,4), але таксама: "Радуйцеся заўсёды ў Пану" (Флп 3,1). Мы пакліканыя да сапраўднай радасці – радасці ад аб'яўлення ў Хрысце перамогі дабра над злом. Зместам нашага жыцця павінен стаць таксама смутак, сапраўдны збавенны смутак, бо ўзнікае ён па прычыне граху.**

**1431**
Унутранае пакаянне – гэта радыкальная перамена ўсяго жыцця, вяртанне і навяртанне да Бога ўсім сэрцам, разрыў з грахом, адхіленне ад граху з агідаю да здзейсненых намі нядобрых учынкаў. Унутранае пакаянне мае ў сабе таксама жаданне і пастанову змяніць жыццё, мае ў сабе надзею на Божую Міласэрнасць, веру ў дапамогу Яго ласкі. Гэтаму навяртанню сэрца спадарожнічае збавенны боль і смутак, якія Айцы Касцёла называлі смуткам душы і скрухаю сэрца.

**163**
Вера дазваляе нам загадзя спазнаваць радасць і святло шчаслівага прадбачання, што з'яўляецца мэтаю нашай зямной вандроўкі. Убачым тады Бога "тварам у твар" (1 Кар 13,12), "такім, якім ёсць" (1 Ян 3,2). Значыць вера – гэта ўжо пачатак вечнага жыцця, бо ў хвіліну, калі сузіраем багацце, абяцанае нам вераю і як бы адлюстраванае ў крыніцы, то ўжо як быццам валодаем гэтаю цудоўнаю рэальнасцю, якою, як запэўнівае нас наша вера, калісьці будзем цешыцца.

**787**
Ад пачатку Езус далучыў вучняў да свайго жыцця; аб'явіў ім таямніцу Валадарства; даў ім удзел у сваім пасланні, у сваёй радасці і ў сваіх цярпеннях.

Езус гаворыць пра яшчэ глыбейшае паяднанне паміж Ім і тымі, што пойдуць за Ім: "Будзьце ж ува Мне, і Я ў вас… Я лаза, а вы галіны" (Ян 15,4-5). Ён прадказвае таксама таемнае і рэальнае паяднанне паміж сваім і нашым целам: "І хто есць Цела Маё і п'е Кроў Маю, ува Мне ёсць і Я ў ім" (Ян 6,56).



*РАЗВАГІ НАД ДЭКАЛОГАМ*



Кс. Эдвард СТАНЕК

# З КЛОПАТАМ ПРА СУМЛЕННЕ

## *ДРУГАЯ ЗАПАВЕДЗЬ*
## Імя Божае вымаўляй з пашанаю

"Не ўжывай імя Божае надарэмна" — такая інтэрпрэтацыя другой запаведзі сустракаецца найбольш часта і забараняе зняважліва вымаўляць Божае імя. Здараецца такое альбо па звычцы, альбо калі чалавек узбуджаны ці нервуецца. Датычыць гэта самых простых усклікаў: "О, Божа!", "О, Езу!", "Раны Боскія", "Езус-Марыя!". Некаторыя так прывыклі да гэтага, што не здольны вымавіць і пяці фразаў, каб легкадумна не ўплесці ў іх імя Божае. Не заўсёды гэта з'яўляецца грахом, а тым больш — цяжкім і таму не пазбаўляе верніка права прымаць св. Камунію. Аднак спынімся больш падрабязна на гэтай таямнічай запаведзі "Не ўжывай імені Божага надарэмна", бо яна была пастаўлена перад наказам належнай павагі да бацькоў, перад забаронаю забойства, чужалоства, крадзяжу... Відаць, стаіць яна на варце якойсьці вялікай каштоўнасці. Якой?

Калі гэтую запаведзь сфармуляваць у пазітыўным сэнсе, то тады б яна гучала так: "Вымаўляй імя Бога твайго з пашанаю". Такое вымаўленне імені Божага з'яўляецца малітваю. А малітва — гэта само "сэрца" рэлігійнага жыцця. Калі гэтае "сэрца" перастае біцца, калі чалавек перастае маліцца, яго рэлігійнае жыццё памірае.

Хто бяздумна вымаўляе імя Божае, той сведчыць, што альбо зусім не моліцца, альбо дрэнна моліцца. Бо той, хто стаў перад жывым Богам і з пашанаю звярнуўся да Яго, ніколі не вымавіць імені Божага надарэмна. Гэтаксама як сын альбо дачка, якія шануюць сваіх бацькоў, ніколі не выкажуцца пра іх зняважліва.

Божыя запаведзі вельмі канкрэтныя і дазваляюць паставіць беспамылковы "дыягназ". Калі спаведнік чуе, як хтосьці каецца ў тым, што вымаўляе імя Божае надарэмна, тут жа можа ўказаць на слабы пункт рэлігійнага жыцця, а менавіта — на хворае "сэрца", г.зн. на слабую малітву.

Якім чынам можна вылечыцца ад грахоў, заснаваных на занядбанні другой Божай запаведзі? Лякарства тут простае: старанная, засяроджаная, кароткая, але поўная веры малітва. У часе спаткання з Богам на малітве ўзрастае наша павага да Яго. Калі на працягу месяца штодзённа і добра маліцца, то гэта відавочна паўплывае на адказнае вымаўленне Божага імені. З нашых вуснаў радзей будзе вырывацца бяздумнае: "О, Божа!", "О, Езу!" і да таго падобнае.

З грамадскага пункту погляду такое бяздумнае вымаўленне Божага імені мае небяспечны ўплыў, бо прыніжае аўтарытэт рэлігійных каштоўнасцяў.

Аднаго разу я размаўляў з бацькамі, а побач з імі гулялі дзеці. Шасцігадовы сынок раз за разам вымаўляў імя Божае надарэмна. Маці, счырванелая ад сораму, пачала яму рабіць заўвагі. Ён перапыніў гульню і спакойна сказаў: "А ты сама так заўсёды гаворыш". Маці нават не ўсведамляе, што, перадаючы зняважлівае вымаўленне Божага імені свайму малому дзіцяці, ускладняе яму ў будучым адпаведны падыход да рэлігійных каштоўнасцяў.

Іншым выпадкам парушэння другой запаведзі Дэкалогу з'яўляецца закліканне Бога на дапамогу ў выкананні сваёй уласнай волі. Гаворка тут не ідзе пра нешта нядобрае. Датычыць гэта і таго добрага, да якога мы імкнемся па сваёй ініцыятыве, бо вядома, што колькі разоў чалавек праяўляе сваю волю насуперак волі Божай, столькі разоў на тым апякаецца.

Шасцідзесяцігадовая жанчына дапамагае сваёй дачцы. Зімою гадуе дзяцей, а летам (паколькі жывуць у вёсцы) займаецца гаспадаркаю. Неяк, гонячы з поля кароў, звярнулася да Пана Бога з просьбаю: "Пане Божа, мог бы Ты мяне звольніць хоць на месяц ад гэтых кароў і ад гэтай хаты. Збрыдла мне ўжо такое жыццё. Нічога не бачу, акрамя гэтых кароў і дзяцей у хаце. Даў бы Ты мне які месяц адпачынку".

Вечарам яна загнала кароў у хлеў, навязала іх і калі ўжо выходзіла, спатыкнулася, ды так няўдала, што ўпала і вывіхнула нагу ў калене. Страціла прытомнасць, а калі вярнулася да памяці ў машыне хуткай дапамогі, то найперш прашаптала: "Пане Божа, не слухай Ты ўсяго, што мы Табе гаворым".

Калі мы просім аб чым-небудзь, што нам падабаецца, хоць бы й аб самым нязначным, а не дадаем пры тым "будзь воля Твая", ніколі не выйдзе нам тое на дабро. Тое, што Бог запланаваў, ёсць вялікае і цудоўнае, і толькі на гэтым шляху мы можам узбагаціць сябе. Таму таксама ўсе нашыя просьбы, якія датычаць часовых зямных рэчаў, павінны быць падпарадкаваны Яго волі.

Чарговы прыклад парушэння другой запаведзі — спакуса Бога, г.зн. просьба аб дапамозе ў нечым нядобрым. Напрыклад, злодзей моліцца, каб



удаўся ягоны напад, прызывае Бога ў якасці супольніка ў злым чыне.

Іншы выпадак: жанчына прымае св. Камунію па дарозе да гінеколага, ідучы рабіць аборт. Просіць Бога, каб аборт удаўся.

Сусед, які замаўляе св. Імшу ў "інтэнцыі, вядомай Пану Богу". Калі

святар пытае яго, ці добрая гэта інтэнцыя, ён адказвае: "для мяне так, але не для суседзяў. Я прашу Бога, каб урэшце напаткала іх якоесь няшчасце, бо ўжо не магу больш вытрываць з імі".

Такая малітва з'яўляецца грахом. Гэта злоўжыванне імем Божым. Гэта прызыванне Божага імені надарэмна, бо вядома, што Бог ніколі не дапаможа ў нядобрым.

Вось тры выпадкі знявагі Божага імя, якія сустракаюцца найбольш часта. Хачу яшчэ раз нагадаць, што зняважлівае вымаўленне Божага імя сведчыць пра недаацэнку каштоўнасці малітвы альбо пра фальшывы падыход да малітвы.

# Прысяга

Прысяга — гэта прызыванне Бога за сведку, што я кажу праўду, альбо ў тым, што стрымаю сваё слова. У Новым Запавеце Хрыстус заклікае ўсіх сваіх вучняў, каб ніколі не звярталіся да прысягі. Наша слова павінна быць такое праўдзівае, каб самога прызнання, што мы хрысціяне, хапіла як доказу праўдзівасці гэтага слова. Тым не менш, на практыцы мы сутыкаемся з пэўнымі сітуацыямі, калі іншыя вымагаюць ад нас прысягі.

У паўсядзённым жыцці бывае так з людзьмі слабой веры, якія спрабуюць падперці аўтарытэт свайго слова Божым імем. Тады няма аніякай упэўненасці, што такі чалавек стрымае слова, затое ёсць поўная перакананасць, што ў гэты момант ён гаворыць няпраўду. Такі чалавек не любіць Бога, бо калі б любіў, то ніколі б у такой мізэрнай справе не выкарыстоўваў бы Ягонае імя. Зрэшты, гэта нават не прысяга ў яе дакладным сэнсе, а хутчэй бяздумнае вымаўленне Божага імя.

З урачыстаю прысягаю мы сутыкаемся ў судзе альбо ў парафіяльнай канцылярыі. Калі такая прысяга не адпавядае праўдзе, то той, хто яе дае, амаль заўсёды ўчыняе цяжкі грэх. Больш таго, вынікі фальшывай прысягі вельмі часта немагчыма выправіць.

Ведаю ўсіх трох герояў аднае драмы. Адзін з іх прасядзеў дванаццаць гадоў у турме, бо сябра пад фальшываю прысягаю ўказаў на яго як на забойцу. Праз тры гады пасля вынесенага прысуду сапраўдны забойца загінуў у дарожнай аварыі. Неўзабаве пасля яго пахавання, мяне затрымаў на вуліцы той, што даваў фальшывую прысягу. Ён быў напалдпітку. "Што я павінен цяпер зрабіць?" — пытаў ён у роспачы. "Ёсць толькі адно адзінае выйсце, — кажу яму. — Трэба адмовіцца ад ранейшых паказанняў. Іншага не дадзена. Гэтым хоць бы скасуеш дзевяць гадоў турмы свайго сябра". Расплакаўся: "Але за дачу фальшывай прысягі мяне самога чакае пяць гадоў..." Так і не хапіла яму адвагі, не сказаў праўды. Яго невінаваты сябра адсядзеў дванаццаць гадоў у турме. А сам ён стаў закончаным алкаголікам. Колькі ўчынілася крыўды: зруйнавана было жыццё нявіннага чалавека, яго ўласнае жыццё і жыццё ягонай сям'і. А ўсё пачалося ў судзе ў момант прысягі...

Вынікі фальшывай прысягі — страшныя. Таму, калі гэта магчыма, не прысягайма, а калі прысягаем, то павінны несці за гэта поўную адказанасць.

Паколькі ў душпастырскай працы я ўсё часцей сутыкаюся з выпадкамі





легкадумнага падыходу да клятвапарушэння, то хачу і на гэта звярнуць увагу, бо яно ясна сведчыць пра аслабленне веры.

Вось яшчэ адзін прыклад. Жанчына прыехала, каб дамовіцца аб пахаванні свайго мужа. Муж шмат гадоў не хадзіў да касцёла. Святар, які ў канцылярыі афармляў гэту справу, спытаў: "Ці даўно ваш муж быў у спаведзі?" Жанчына адказала: "Нядаўна, перад святамі". "Ці можаце вы пацвердзіць гэта прысягаю?" "Так, магу зрабіць гэта тут жа". Ксёндз запаліў свечкі, жанчына паклала руку на крыж. Святар сказаў: "Вы дасце прысягу, але калі гэта няпраўда, то я папярэджваю, што Пан Бог спашле на вас кару". У той жа момант рука адскочыла ад крыжа, жанчына пабялела і кажа: "Не, ойча, муж ужо дваццаць гадоў не быў ані ў спаведзі, ані ў касцёле". Яна адмовілася ад прысягі, бо спужалася. А хвіліну назад гатова была афіцыйна, паклаўшы руку на крыж, даць фальшывую прысягу, каб толькі астанкі мужа дазволілі ўнесці ў касцёл. Не зважала на тое, што сама ў гэты момант учыняе цяжкі грэх...

Трэба памятаць: калі мы маем справу з прысягаю, то павінны дакладна ўзважыць кожнае слова.

Яшчэ адна сітуацыя, якая ўсё больш турбуе душпастыраў. Гаворка ідзе пра прысягу ў часе сакрамэнту сужэнства. Маладыя бяруць Бога за сведку, абяцаючы сваёй нарачонай альбо нарачонаму "любоў, вернасць і сужэнскую сумленнасць аж да смерці". Гэта прысяга заканчваецца словамі: "Так мне дапамажы, Бог". Бывае, што сама формула, прамоўленая пры алтары, ужо з'яўляецца клятвапарушэннем. Гэта здараецца тады, калі ён ці яна не кахае, не захоўвае вернасці, мае кагосьці іншага.

У такім выпадку той, хто прамаўляе словы прысягі, учыняе цяжкі грэх. Пры выбары мужа ці жонкі трэба пераканацца ў праўдзівасці свайго абранніка, трэба ведаць, да якой ступені ён адказны за словы, якія скажа пры алтары. Не здзіўляймася, што так часта сем'і распадаюцца. Часам праз некалькі месяцаў. Калі яны заснаваныя на ілжы, то не могуць быць трывалымі. Дом любові можна будаваць толькі на праўдзе...

Святары часам трапляюць у вельмі цяжкую сітуацыю. Напрыклад, перад самым шлюбам маладыя прыносяць пасведчанне, што адно і другое былі ў спаведзі. Святар бачыць, што на пасведчанні ягоны подпіс падроблены. Ясна, што адзін з гэтых дваіх, што цяпер кленчаць пры алтары, не быў у спаведзі і таму падрабіў подпіс. Праз хвіліну без спаведзі, па-святатацку ён прыме св. Камунію і па-святатацку будзе прысягаць. Калі зманіў, падрабляючы пасведчанне, то дзе гарантыя, што словы, прамоўленыя пры алтары, будуць словамі праўды?

У свеце, дзе няпраўда з'яўляецца нормаю, трэба мець на ўвазе, што хтосьці можа прыкрыцца Богам, праігнараваць другую запаведзь толькі дзеля таго, каб дасягнуць свае ўласнай мэты. "Не ўжывай імя Божае надарэмна".

Грахом, які парушае другую запаведзь Дэкалогу, з'яўляецца таксама парушэнне клятвы, дадзенай Богу. Аднак, паколькі сітуацыі такія вельмі індывідуальныя, усіх зацікаўленых гэтаю тэматыкаю адсылаю да спаведніка. Несумненна адно: лепш клятвы не даваць, чым даўшы яе, не выканаць. Таму перш, чым прысягаць перад Богам, трэба заўсёды добра падумаць.

*Працяг будзе.*
*Пачатак у №№ 1-2 за 1998 г.*

*Пераклад Крыстыны Лялько.*

ПЕРАЖЫВІ ГОДНА



# Вялікі Пост

Пастараемся асэнсаваць некалькі слоў, якія часта чуем у часе Вялікага Посту. Разуменне іх сэнсу дапаможа нам лепш перажываць сем тыдняў – сорак дзён Вялікага Посту.

Чаму сорак дзён? Бо Пан Езус пасціў сорак дзён. Пост – гэта штосьці большае, чымсьці ўстрыманне ад мясных страваў. Гэта час малітвы, адмаўленне ад нейкіх нават добрых рэчаў дзеля загартоўкі тваёй волі. Гэта час міласціны – час, калі ты робіш добрыя ўчынкі. Калі хочаш быць годным – мусіш трэніраваць сябе. Гэтая трэніроўка называецца аскезай. Усё гэта прыводзіць да пакаяння альбо змены – ты павінен штораз рабіцца лепшым.

- ***Малітва.***

Гаворка не пра пацеры. Трэба ўслухацца ў тое, што кажа табе Пан Бог. Таму чытай Яго Слова – Святое Пісанне. Чытаючы ж, мусіш у пэўны момант спыніцца і адказаць на тое, што табе сказаў Пан Бог. Тады ты будзеш перапрашаць, дзякаваць і прасіць. Апрача гэтай малітвы, памятай пра словы Пана Езуса, які сказаў, што мы павінны пастаянна маліцца і ніколі не стамляцца (пар. Лк 18,1). Гэта значыць: усё, што робім, павінна быць малітвай. Тады мы будзем усё рабіць добра.

У часе Вялікага Посту ёсць асаблівыя малітвы: чытанне і разважанне над мукай Пана Езуса, у нядзелю – песні-жальбы, а ў пятніцу – Крыжовы Шлях. Абодва гэтыя набажэнствы можна адправіць на адзіноце, дома. Добра, калі ты сам, самастойна будзеш разважаць над Крыжовым Шляхам (калі ўмееш гэта рабіць).

- ***Пост і ўстрыманне.***

Чаму ў пятніцу мы не ядзім мяса? Каб нагадаць сабе, што ў гэты дзень памёр Пан Езус. Хворыя, дзеці і старыя не абавязаны захоўваць устрыманне ад мяса. Апрача таго, устрыманнем і постам будзе адмова ад цыгарэтаў, адмова ад чагосьці такога, што люблю рабіць, напр., не глядзець тэлевізар, не есці салодкага, не хадзіць на забаўляльныя імпрэзы і г.д. А ці выпадае танцаваць у той час, калі ўсведамляем, што Пан Езус памёр на крыжы? Падумай.

- ***Міласціна.***

Гэта не толькі ахвяраванне ў касцельную скрынку альбо некалькі грашовых папер, кінутых жабраку. Можа, трэба камусьці дапамагчы? Прыгледзься, колькі людзей патрабуюць тваёй дапамогі, альбо, можа, трэба з кімсьці падзяліцца тым, што ты любіш. Але не рабі гэтага дзеля пахвалы, дзеля таго, каб іншыя бачылі, бо можаш зрабіць прыкрасць таму, каму даеш. Зрабі гэта незаўважна. Няхай пра тое ведае толькі Бог, які бачыць утоенае.

З малітваў Вялікага Посту прапаную Табе цудоўную малітву – Крыжовы Шлях. Адпраў яе калі-небудзь у касцёле альбо дома, найлепш – сам!





# Крыжовы Шлях

Пане Езу! Хачу ісці за Табою Крыжовым Шляхам. Дапамажы мне. Гэты Шлях пачну ахвяраваць за ......
*(Перад кожнай стацыяй прамаўляем:* кланяемся Табе, Пане Езу Хрыстэ і багаслаўляем, бо праз крыж і муку сваю Ты свет адкупіў. *Пасля кожнай стацыі:* Што цярпеў за нас раны, Езу Хрыстэ, змілуйся над намі.)

## СТАЦЫЯ I
**Езус асуджаны на смерць**



Крычалі:
"Укрыжуй Яго?"
Пілат падпісваў
вырак смерці.
Езу мой невінаваты,
асуджаны за мяне,
змілуйся нада мною.

## СТАЦЫЯ II
**Пан Езус бярэ крыж**



Езу мой! Але ж на
крыжы паміраюць
злачынцы. Ведаю,
Ты ўзяў на сябе грахі
ўсіх нас.
Адкупіцель мой.

## СТАЦЫЯ III
**Пан Езус падае пад крыжам**



Езу мой!
Ты, Усемагутны,
падаеш?..
Мая сіла –
у Тваіх падзеннях.

## СТАЦЫЯ IV
**Пан Езус сустракае Маці Балесную**



Маці Балесная!
Я ведаў,
што Ты прыйдзеш.
Маці! Дапамажы мне,
бо я не маю сілы.
Баюся.

## СТАЦЫЯ V
**Сымон Кірынэец дапамагае Пану Езусу несці крыж**



А я, Пане, стаю –
слабы і здранцвелы.
Баюся крыжа,
абмінаю яго.
Сымоне, навучы мяне
несці мой крыж.

## СТАЦЫЯ VI
**Вераніка выцірае Езусаў твар**



Вераніка,
ты вельмі смелая. А я?
Пайду да людзей,
вытру ім вочы,
бо церпяць і плачуць.

## СТАЦЫЯ VII
**Пан Езус другі раз падае пад крыжам**



Што ж мне рабіць?
Не ўмею дапамагчы
Табе, Пане.
Падаю сам.
Малю Цябе, дапамажы
мне падняцца.

**СТАЦЫЯ VIII**
**Пан Езус суцяшае жанчын, якія плачуць**



Не па Мне плачце.
Па сабе плачце
і па вашых дзецях.
Так, Пане, але я ўжо
і плакаць не ўмею.

**СТАЦЫЯ IX**
**Пан Езус трэці раз падае пад крыжам**



А колькі разоў
я падаў? Ужо не злічу.
Езу міласэрны,
Ты заўсёды
прабачаеш мне.
Езу, давяраюся Табе!

**СТАЦЫЯ X**
**З Езуса шаты здзіраюць**



Не саромейся, Пане.
Гэта за маю
бессаромнасць.
Ты для мяне заўсёды
святы.

**СТАЦЫЯ XI**
**Пан Езус да крыжа прыбіты**



Цалую Твае святыя
раны, Пане мой
укрыжаваны.
Злітуйся нада мною.

**СТАЦЫЯ XII**
**Пан Езус памірае на крыжы**



Я не ўмею любіць
Цябе так, як Твая
Маці, Ян...
Разам з Магдаленай
цалую Твае ногі
і абмываю іх слязьмі.

**СТАЦЫЯ XIII**
**Пан Езус зняты з крыжа**



Юзэфе з Арыматэі,
Нікадэме,
Маці Балесная,
Ён сказаў,
што паўстане
з мёртвых.
Я так веру ў гэта!

**СТАЦЫЯ XIV**
**Пан Езус пакладзены ў грабніцу**



Нічога.
Цяпер павінна
быць цішыня.
Цяпер ужо ўсё
адкуплена.
Ён прыйдзе Жывы!

**Заканчэнне**
Дзякую Табе, Пане, за тое, што дапамог мне дайсці да канца. Люблю Цябе за Тваю муку і змёртвыхпаўстанне. Амэн.
Усе малітвы, пасты і міласціна Вялікага Посту дапамагаюць табе падрыхтавацца да сакрамэнту пакаяння і добра перажыць яго. Мусіш змяніцца, стаць лепшым, змяніць свае думкі і ўчынкі.





- ***Рэкалекцыі.***

У касцёлах адбываюцца рэкалекцыі. Гэта час услухоўвання, роздуму, рахунку сумлення, жалю за грахі, пастаноў і кампенсацыі.

Абавязкова ідзі на рэкалекцыі. Добра іх перажыві. Пабожна, з усёй адказнасцю паспавядайся.

- ***Тры святыя дні:* Вялікі Чацвер, Вялікая Пятніца і Вялікая Субота.**

У іх змясцілася ўся гісторыя нашага збаўлення. Будзь у касцёле ў Вялікі Чацвер, бо гэта дзень устанаўлення Найсвяцейшага Сакрамэнту. Калі добра тое ўсвядоміш, то абавязкова ў гэты дзень прыступіш да святой Камуніі.



Будзь у касцёле ў Вялікую Пятніцу, каб услухацца ў апісанне мукі Пана Езуса паводле святога Яна. Падыдзі тады да крыжа, каб з пашанай пацалаваць раны замучанага Пана Езуса.

Будзь у касцёле ў Вялікую Суботу, каб услухацца ў гісторыю стварэння свету, чалавечага граху, адкуплення нас праз муку Пана Езуса і вяртанне нам ласкі Божага жыцця праз хрост. У гэтую святую ноч ты пачуеш радаснае абвяшчэнне змёртвыхпаўстання, а наранiцы ўбачыш пустую грабніцу Уваскрослага Пана Езуса, які прыйдзе да нас.

Асвяці велікодныя стравы, бо ўсё павінна быць новым, пасвечаным, радасным, бо Пан Езус адкупіў нас сваёй мукай, паўстаў з мёртвых і ёсць з намі. Алелюя!
Цяпер усё павінна быць новым – добрым!
Дык узрадуймася ж і ўзвесялімся – алелюя!

*Тэкст: кс. Тыматэй.*
*Стацыі Крыжовага Шляху: Ян Молга.*
*Графіка: Эва Швайца.*

***З НАШАЙ ПОШТЫ***

# *Хто такі вернік?*

*Паважаная рэдакцыя! Я хачу паставіць перад чытачамі пытанне: "Хто такі веруючы чалавек?" Многія лічаць, што калі яны ходзяць у касцёл, то яны і вернікі. Але ці заўсёды гэта так? Я таксама лічыла, што вернік – гэта той чалавек, якога можна спаткаць у касцёле. Ды часам мы прыходзім туды без ахвоты, па звычцы. Альбо тады, калі не хочам, каб пра нас дрэнна падумалі нашы блізкія. Быў час, калі ў касцёл не пускалі, а то й зусім зачынялі святыні, але людзі заставаліся вернікамі. Яны ўмелі быць вернымі Богу.Дык хто ж тады сапраўдны вернік: той, хто наведвае касцёл без ахвоты і часта не разумее слова Божага, альбо той, хто насуперак усім цяжкасцям, жыве з Богам?*

*Чатыры гады таму ў нашым касцёле, які знаходзіцца ў вёсцы Ідолта, што на Мёршчыне, была сястра эўхарыстка Лена. Мы з ёй часта разважлялі на гэтую тэму, і тыя размовы глыбока запалі мне ў душу. Яна паехала ад нас, але да гэтага часу я памятаю яе і люблю. Сустрэча з такім чалавекам прыносіць шмат карысці ў духоўным жыцці, і тады вельмі хочацца стаць сапраўдным хрысціянам, каб вера твая была не напаказ, але дзеля славы Пана Бога.*

**Анжэла Мутар,**
*в. Павяцце Мёрскага раёна*

ПРА СВЯТУЮ ІМШУ

**Што такое Святая Імша? Ці ўсе мы – і тыя, хто ходзіць зрэдку ў касцёл, і тыя, хто бывае ў ім ледзь не штодня – разумеем, добра і ясна ўсведамляем, сэрцам сваім перажываем тое, што адбываецца ў часе Святой Імшы? Як навучыцца не адбываць гэты час па звычцы, але моцна, з вераю перажываць яго? Добра ведаем, што гэтыя пытанні хвалююць многіх нашых чытачоў. Сёння, ідучы насустрач вашым просьбам, мы пачынаем друкаваць тлумачэнні і роздум па гэтых пытаннях. Прапанаваная праца напісана менавіта для католікаў Беларусі, і мы з радасцю выкарыстаем яе ў нашым часопісе.**

# Уступ да літургіі Святой Імшы

## *1. Агульныя пытанні пра літургію*

Пан Езус, ходзячы па палестынскай зямлі, браў удзел у агульных малітоўных спатканнях, альбо ў *літургіі Старога Запавету,* якая адбывалася і ў ерузалемскай святыні (Лк 2,22-24), і ў сінагозе (Мц 13,57; Лк 4,16). Яму не толькі не перашкаджала, як некаторым сучасным хрысціянам, вельмі фармальная, поўная сімволікі, жыдоўская літургія (гл. 2 і 3 кнігі Майсеевы), але Ён і сам браў у ёй удзел. Аднак Езус імкнуўся, каб габрэі, якія пастаянна спасылаліся на правілы Майсеевых кніг, не страцілі *найважнейшага* – імкнення жыць згодна з *Божай воляй, а не толькі з самой літарай* Пісанняў, на якія яны бясконца спасылаліся, і *каб паверылі* ў Сына Чалавечага (Мц 12, 1-14). Веданне Майсеевага Права не гарантавала збаўлення. Хрыстус у сваёй слыннай біблійнай перасцярозе фарысеяў (Мц 23) паказваў іхняе крывадушша. Яны трымаліся правілаў Майсеевага Права, якія тычыліся абрадаў, але *"пакінулі найважнейшае ў законе: справядлівасць, міласэрнасць і веру.* Тое *трэба чыніць, але і гэтага нельга занядбаць"* (Мц 23,23). Бог аб'явіўся не дасведчаным у Бібліі фарысеям, але простым людзям (рыбакам, мытнікам, цесляру і г.д.), якія не ведалі Права, але паверылі ў Хрыста (пар. Лк 10,21-22; Мц 11,25-27). Адбітак тых павучанняў Хрыста бачны ў навучанні каталіцкага Касцёла: найважнейшае – гэта *вера ў Хрыста, міласэрнасць і справядлівасць.* Важна, каб усе моманты літургіі, малітвы, жэсты і г.д. былі звязаны з верай. Бо *без веры кожная літургія* (пратэстанцкая, праваслаўная альбо каталіцкая) *з'яўляецца толькі сустрэчай людзей,* а кожнае вымаўленне слова, нават калі гэта біблійнае слова, але прачытанае без веры, з'яўляецца ўсяго толькі пустым гукам. Рэлігія павінна быць *рэлігіяй Божага, жывога Слова,* а не *рэлігіяй "Кнігі".*

Найважнейшая *новазапаветная літургічная* падзея адбылася ў Вячэрніку, калі Хрыстус устанавіў найсвяцейшую Ахвяру і сакрамэнт святарства, адначасна даручаючы выконваць тое, што Ён сам першы ўчыніў. Пасля смерці Пана Езуса вучні і надалей наведвалі *ерузалемскую святыню* (Дз 3,1-7) і сінагогі (Дз 13,5,14; 14,1).

Першыя хрысціяне збіраліся разам (пар. Дз 12,12-17) на *"ламанні хлеба і малітве"* (Дз 2,42) – гэтак называлі найстаражытнейшы спосаб адпраўлення Святой Імшы. Мы не ведаем схемы такой сустрэчы. Толькі ведаем, што прысутнічалі ў ёй пэўныя малітвы, жэсты і г.д. Усё гэта абапіралася на Стары Запавет. Дадатковым элементам спатканняў было абвяшчэнне Евангелля, г.зн. Добрай Навіны. Самі апосталы ў пэўнай ступені ўжо практыкавалі асобныя формы *літургіі святых сакрамэнтаў.* Святы Пётр ахрысціў членаў сям'і сотніка Карэлія (Дз 10,45-48), а святы Філіп "вяльможу эфіопскай каралевы Канданії" (Дз 8,26-39), у Самарыі апосталы ўдзялілі Святога Духа праз *ускладанне рук* (Дз 8,14-17).



У кожным літургічным чыне адбываецца *асвячэнне чалавека і праслаўленне Бога,* а гэта азначае, што сустракаюцца дзве плыні: *збаўлення,* якая паходзіць ад Бога, і *падзякі,* якая з'яўляецца адказам чалавека.

Важным элементам літургіі з'яўляецца *пасхальнае вымярэнне.* Слова "пасха" ў Новым Запавеце азначае *пераход Пана Езуса па зямлі,* г.зн. усё Яго зямное жыццё, а асабліва мука і смерць, якія сталіся непасрэдным пераходам да хвалы змёртвыхпаўстання. *Успамін у літургіі збаўленчай дзейнасці Хрыста* чыніць так, што яна становіцца рэальнасцю, якая перажываецца наноў, рэальнасцю, якая робіць актуальным збаўленне.

Літургію трэба адрозніваць ад магіі. І ў адным і ў другім выпадку выкарыстоўваюцца жэсты. Але ў магіі яны выкарыстоўваюцца дзеля таго, каб звярнуць на сябе ўвагу боства, зацікавіць яго сабой. У літургіі ж чалавек мабілізуецца на *размову з Богам* праз *годную паставу* адносна Бога і *канцэнтруе ўвагу* (пар. 1 Валад 18,19-39), бо *ўсё, што адбываецца, ужываецца ў літургіі* (слова, рэч, чын), *павінна прывесці чалавека на асабістае спатканне з асобай Бога.* Менавіта літургія і дае магчымасць такога спаткання. Аднак для ўдзелу ў ёй павінна быць моцная *вера,* бо без яе, як ужо я пісаў вышэй, літургія становіцца менавіта магіяй альбо чымсьці рытуальным. Але тут мушу дадаць з уласнага вопыту, што *годны* ўдзел у літургіі прычыняецца да памнажэння веры.

*Працяг у наступным нумары.*

А.С.

# Адары хвалою Алтара...

## 55 гадоў Росіцкай трагедыі

Ужо стала традыцыяй, што ў другой палове лютага ў Росіцкім касцёле імя Найсвяцейшае Тройцы асаблівымі набажэнствамі ўшаноўваецца памяць пра 1528 чалавек – жыхароў Росіцы і навакольных вёсак,– якія сталі ахвярамі фашызму ў 1943 годзе. Гэтыя людзі спалены ў хатах Росіцы. У тыя ж дні ахвяру са свайго жыцця склалі і два мужныя ксяндзы марыяне – Антоні Ляшчэвіч і Юры Кашыра. Яны загінулі разам з тымі, каго навярталі да Бога, каго ў тыя страшныя дні рыхтавалі да смерці, спавядаючы іх у замкнёным касцёле, удзяляючы ім святую Камунію, выпраўляючы ў вечнасць. Загінулі, хаця маглі выжыць. Яны мелі такую магчымасць, але дзеля гэтага трэба было пакінуць тых, каго яны вялі да Бога. Не пакінулі. Выбралі смерць.

Пасля тых жудасных дзён мінула 55 гадоў. Росіца – адна з тых вёсак, што аддалена ад буйных шляхоў ды і магістраляў. Жыццё тут цячэ ціха, няспешна. Прасторны касцёл – сведка трагедыі 1943 года – не перапоўнены ў часе набажэнстваў. А старажылы памятаюць, як некалі ў святы цяжка было патрапіць у касцёл, бо жадаючых было вельмі шмат. Сястра эўхарыстка Ядвіга Віршута, якая ў тыя гады катэхізавала тут дзяцей і дарослых, успамінае, як шмат было тады дзяцей і моладзі, як непасрэдна і шчыра яны ўспрымалі праўды каталіцкай веры, калі ішлі да споведзі і прымалі Езуса ў свае сэрцы...

Усё тое было даўно. Потым была трагедыя – і паўтары тысячы чалавек захлынуліся ў агні. Злая сіла зрабіла сваю справу, знішчыўшы тых, хто жадаў жыць з Богам. На папялішча Росіцы з цягам часу прыехалі новыя людзі. І калі на пачатку 90-х гадоў касцёл зноў расчыніў свае дзверы для вернікаў, то натоўпы людзей не хлынулі да яго. Вёска жыла і далей так, быццам нічога і не адбылося. Відаць, праўду кажа народныя мудрасць:"Як трывога – тады да Бога".

Але вернікі ўсё ж прынялі касцёл. Іх няшмат, зусім не столькі, колькі ішло сюды на пачатку саракавах гадоў, але ўсё ж яны тут. Насуперак лютай сіле зла тут зноў распачалася малітва. І зноў ідуць да сваёй першай Святой Камуніі дзеці. І зноў ёсць тыя, хто лічыць найвялікшым няшчасцем адысці ў вечнасць, не паяднаўшыся з Богам.

Кожны год у Росіцкім касцёле адпраўляецца Святая Імша за тых, хто загінуў у полымі вайны. Часам, асабліва ў жалобныя дні, касцёл наведваюць і прадстаўнікі мясцовай улады, тады ж сюды прыходзяць і настаўнікі з дзецьмі. Час ад часу да братняй магілы і да падножжа крыжоў, якія ўстаноўлены на месцы першапачатковых магіл, дзеці прыносяць кветкі.

І ўсё ж найлепшая памяць пра памерлых – малітва.Таму штогод у другой палове лютага сюды прыязджаюць святары з суседніх парафій. Сёлета на малітву ў Росіцу 15 лютага прыехалі ксёндз-дзекан Эдвард Ахрамовіч, ксёндз Антоні Лось MIC і ксёндз Генрык Кулеша MIC, брат марыянін Станіслаў Буры, а таксама сёстры эўхарысткі. Разам з пробашчам Росіцкага касцёла Антоніем Ласём MIC і мясцовымі парафіянамі яны маліліся за тых 1528 чалавек, якія 17 і 18 лютага 1943 года выйшлі з дзвярэй гэтага касцёла і былі знішчаны нечалавечым агнём вайны. Шчаслівых, якім давялося выжыць, было вельмі мала. Але яны былі. І сярод іх сястра эўхарыстка Ядвіга Віршута, якая нядаўна адзначала 60 гадоў свайго служэння ў Законе. У цяжкія хвіліны жыцця яна добра ведала іх, бачыла іхнюю ахвярную службу Богу, была сведкай іх апошніх дзён, упэўнена ў іхняй святасці. Нам жа застаецца толькі маліцца да Айца Нябеснага за тое, каб кананізацыйны працэс росіцкіх мучанікаў Юрыя Кашыры MIC і Антонія Ляшчэвіча MIC, які распачаты 26 студзеня 1992 года, завяршыўся для іх хвалою Алтара.

***Ірэна Задарожная***

## Малітва аб беатыфікацыі



Кс. Антоні ЛЯШЧЭВІЧ

***Ойча Нябесны!** Дзякую Табе за дар мужнае веры, надзеі і любові, якім Ты ўзнагародзіў слуг Тваіх, святароў Антонія і Юрыя, што згадзіліся прыняць смерць у полымі дзеля Твае хвалы і дзеля духовага дабра даверанага ім люду. Учыні, каб тыя, хто сваім пастырскім клопатам атачаў не толькі католікаў, але й праваслаўных, і з імі разам прынялі смерць, сталіся апекунамі ўсіх вызнаўцаў Хрыста. Адары слугаў Тваіх хвалою Алтара, мяне ж – праз іх заступніцтва – барані ад граху і ўдзялі ласку..., аб якой я з даверам і пакораю прашу Цябе сёння. Праз Хрыста, Пана нашага. Амэн.*



Кс. Юры КАШЫРА





# МАЛІТВЫ ЦУДОЎНЫЯ СЛОВЫ...

### Малітва за бацькоў

Усемагутны, вечны Божа, Ойча, які даў чалавеку запаведзь, каб шанаваў свайго бацьку і маці сваю, дзякую Табе за бацькоў і прашу за іх. Усім сэрцам люблю іх і жадаю,каб яны жылі як найдаўжэй. Пасля Цябе, Божа, найбольш удзячны я ім. Па Тваёй волі яны далі мне жыццё цела і надпрыроднае жыццё душы. Шмат сілаў яны ўкладваюць у клопат аб маім здароўі, навучанні і выхаванні.

Божа Ойча, учыні, каб я ўмеў ацаніць іхнюю дабрыню і за ўсё дзякаваў ім. Ты ж сваёй ласкай пажадай узнагародзіць іх. Дай ім, Пане, здароўе і ўсе ласкі, якія патрэбны для шчасця і збаўлення. Мне ж, Божа Ойча, дазволь быць для іх суцяшэннем, дапамажы мне любіць, шанаваць іх і дапамагаць ім. Божа Ойча, ад Цябе бярэ пачатак усялякі род на небе і на зямлі, выслухай малітвы свайго дзіця і ва ўсім благаслаўляй маіх бацькоў. Праз Хрыста, Пана нашага. Амэн.

### Малітва бацькоў за дзяцей

Пане Божа, ты паклікаў нас стварыць сям'ю, пажадаў узбагаціць яе нашчадкамі, даручаем Табе нашых дарагіх дзяцей. Аддаем іх пад Тваю бацькоўскую ўсемагутную апеку, каб яны пастаянна ўзрасталі ў Тваёй святой боязі, вялі праўдзівае хрысціянскае жыццё і прынеслі радасць не толькі нам, якія далі ім жыццё, але таксама і Табе, свайму Створцу.

Пане, паглядзі, сярод якіх людзей жывуць нашыя дзеці. Удзялі ім, Пане, дапамогі і абароны, нам жа дапамажы, каб мы ўсведамлялі небяспеку, якая ім пагражае, і прыкладам свайго жыцця, звычаяў, дасканалым захоўваннем святых Тваіх правоў і Твайго Касцёла, здолелі весці іх сцежкамі цноты і Тваіх запаведзяў. Аднак уся наша праца будзе нічым, калі Ты, усемагутны і міласэрдны Божа, не асвяціш яе сваім благаслаўленнем.

Таму з глыбіні сэрца, з вераю ў Тваю дабрыню, якую Ты заўсёды ўдзяляў нам, просім у Цябе гэтага благаслаўлення для сябе і сваіх скрыдлаў і ўчыні, каб мы разам з імі, поўныя ўдзячнасці за Тваю апеку над нашай сям'ёй, здолелі дайсці да неба і славілі Цябе навекі вечныя. Амэн.

### Малітва за хворае дзіця

Божа, дзеля Цябе ўсе ўзрастае, а вырасшы, ад Цябе атрымліваем моц, працягні сваю правіцу над слугою Тваім..., які напачатку жыцця хварэе. Няхай, атрымаўшы здароўе і сілы, ён дойдзе да паўнаты гадоў і на працягу ўсіх дзён свайго жыцця з удзячнасцю служыць Табе.

Божа, цудоўным чынам Ты вызначаеш абавязкі анёлам і людзям. Літасціва ўчыні, каб жыццё гэтага дзіцяці сцераглі на зямлі тыя, якія служаць Табе ў небе і заўсёды атачаюць Цябе. Праз Хрыста, Пана нашага. Амэн.

### Малітва за хворага ў сям'і

Усемагутны, вечны Божа, Ойча і Створца жыцця, вечны лекар вернікаў, узглянь на ..., які хварэе. Узглянь на яго цялесныя і духоўныя цярпенні. Удзялі яму сваёй дапамогі, каб, калі толькі гэта згодна з Тваёй найсвяцейшай воляй, ён мог зноў служыць Табе і людзям, Тваім дзецям. Учыні, каб ён даверыўся Тваёй бацькоўскай дабрыні.

Усемагутны, вечны Божа, міласэрны Лекар душаў і целаў Тваіх дзяцей, выслухай нашыя просьбы за хворага ..., для якога мы просім у Цябе літасці. Няхай ён, атрымаўшы сабе здароўе, шчырым сэрцам дзякуем Табе. Праз Хрыста, Пана нашага. Амэн.

НАШЫ АПЕКУНЫ

# СВЯТЫ ЮРЫ

Святы Юры належыць да тых святых, якія мелі вялікую пашану ва ўсе часы і ва ўсіх краях, як ва ўсходнім, так і ў заходнім Касцёле. Для многіх святы Юры быў прыкладам адважнага героя. Калі яго прасілі аб заступніцтве перад Богам, ён выпрошваў чаканую дапамогу. Ён быў вельмі папулярны таксама і як апякун хворых хатніх жывёлаў, быў залічаны да тых святых, якія асабліва дапамагаюць у розных патрэбах.

Ён нарадзіўся ў Кападокіі, дзе вырас і атрымаў вайсковую адукацыю. У маладосці патрапіў у каралеўскае войска, узвышаўся ад чына да чына, ажно пакуль не атрымаў званне палкоўніка і кіраўніцтва легіёнам. Гэта было ў часы Дыялекцыяна, які першыя дванцаць гадоў свайго панавання яшчэ лаяльна ставіўся да хрысціянаў. Але з цягам часу паганскія святары і вучоныя так паўплывалі на імператара, што ён стаў найгоршым ворагам хрысціянаў і распачаў надзвычай суровы пераслед ва ўсёй краіне.

Юры вызначыўся спрытам не толькі на полі бою. У часе, калі хрысціяне апынуліся ў цяжкім становішчы, ён дэманстраваў сапраўдную адвагу мужа і хрысціяніна.

Не зважаючы на сваё становішча, ён стаў перад імператарам і адважна выказаў яму папрокі, якія датычылі пераследу.

Дыяклецыян быў надзвычай здзіўлены гэтакай шчырасцю і аддаў загад пасадзіць таленавітага вайскоўца ў вязніцу. Спачатку імператар спрабаваў па-добраму, з дапамогай абяцанняў пераканаць свайго падначаленага адысці ад хрысціянства. Аднак гэта было марна – Юры моцна трымаўся сваіх перакананняў. Тады распачаліся пагрозы і самыя розныя мучэнні. Калі ж усё гэта не дапамагло, імператар загадаў сцяць яму галаву, а разам з ім і яговым годным братам па веры. Вестка пра смерць мучаніка разышлася паўсюль: на ўсходзе і на захадзе.

Легенда пра адважнага маладога героя і ягоную смерць у 303 годзе, калі яму толькі што споўнілася 33 гады, зрабіла яго любімым сярод розных народаў. Паўсюль вядомы абраз святога Юрыя, які забівае цмока.

Легенда распавядае, што святы Юры аднаго разу прыбыў з Нікадэміі ў горад Сыленэ ў Лібіі. Паблізу таго горада ў балоце жыў страшны цмок, якога жыхары вельмі баяліся. Каб яго не дражніць, трымаліся здалёк і прыносілі яму штодня дзве авечкі, якіх ён з'ядаў. Пасля людзі пачалі прыносіць яму адну авечку і адно малое дзіця. Калі прыйшла чарга самому каралю аддаць сваю дачку на ахвяру, той марудзіў цэлы тыдзень. Але яму нічога не заставалася, як згадзіцца і аддаць роднае дзіця. Менавіта тады і з'явіўся святы Юры. Дзяўчынка распавяла яму пра страшныя ахвяры, якія складаліся цмоку і папярэдзіла, каб Юры ўцякаў, бо вось-вось выйдзе з багны цмок. На гэта герой не мог згадзіцца, але наадварот – уступіў у бой. Пасля працяглай барацьбы ён забіў страшыдла. Такім чынам была выратавана не толькі каралеўская дачка, але і ўвесь горад: таму кароль і яго падданыя прынялі хрысціянскую веру. Гэтая і іншыя легенды паказваюць, якой пашанай карыстаўся святы ва ўсялякіх змаганнях са злом.

Хрысціяне звяртаюцца да святога Юрыя ў розных жыццёвых цяжкасцях. Касцёл адзначае яго свята 23 красавіка. Святы Юры стаў апекуном рыцараў, жаўнераў і ўсіх змагароў. Сваім апекуном яго абралі кавалерысты, збройнікі, а таксама харцэры і скауты. Ягонай дапамогі просяць хворыя ў часе эпідэміі і хваробаў скуры, пракажоныя, тыя, каго ўкусіла змяя. Святы Юры апякуецца Беластоцкай і Віленскай архідыяцэзіямі, Пінскай дыяцэзіяй, ён з'яўляецца апекуном Англіі, Галандыі, Германіі, Швецыі, Літвы і многіх гарадоў.

На абразах мы найчасцей бачым яго рыцарам на кані, што доўгай дзідай прабівае цмока. Часам на абразах святога Юрыя можна ўбачыць белую харугву з чырвоным крыжам і прылады, якімі яго мучылі: млынарскі камень, кола, цвікі і г.д. Варта яшчэ дадаць, што вобраз святога Юрыя на кані – рыцара альбо "капейніка"(ад слова кап'ё, якім ён перамагае цмока) выбіваўся на Русі на дробных манетах. Адсюль і пайшло слова – капейка.





СКАРБЫ СВЯТОЙ ДУМКІ

## Святы Эфрэм, дыякан і доктар Касцёла

***Святы Эфрэм нарадзіўся ў 306 годзе ў Месапатаміі. Быў вядомы як заснавальнік і настаўнік тэалагічнай школы, кіраўнік касцёльных хораў, аўтар каментараў да Святога Пісання, а таксама аўтар двух вялікіх збораў гімнаў. Святы Эфрэм быў яшчэ і паэтам, які склаў прыгожыя гімны ў гонар Маці Божай. Вядомыя грэцкая, лацінская, армянская, грузінская версіі ягоных твораў. Папа Рымскі Бенедыкт XV абвясціў яго доктарам Касцёла.***

# СЛОВА БОЖАЕ — НЕВЫЧЭРПНАЯ КРЫНІЦА ЖЫЦЦЯ

***З каментара святога Эфрэма да чатырох Евангелляў***

Хто ж здолее зразумець усю глыбіню аднаго Твайго слова, Пане? Нашмат больш, чымсьці разумеем, мінае нас, нібы таго чалавека, якога мучае смага і які п'е ваду з крыніцы. Божае слова прымае розны сэнс, які залежыць ад культуры тых, хто яго пазнае. Бо Пан аздобіў свае слова рознакаляровай красою, каб кожны, хто ў яго заглыбляецца, мог убачыць тое, што захопіць яго. У сваім слове Пан змясціў разнастайнае багацце дзеля таго, каб кожны з нас мог знайсці для сябе пажытак у тым, над чым ён разважае.

Слова Бога — гэта дрэва жыцця, якое з кожнага боку падае табе свой багаславёны плод; яно, нібы тая адкрытая на пустэльні скала, якая можа ўсіх напаіць духоўным напоем. "Спажывалі, — кажа апостал, — духоўную страву і пілі духоўны напой".

Таму, калі хто-кольвечы здолее зразумець частку гэтых багаццяў, то няхай не лічыць, што ў Божым слове знаходзіцца толькі тое, што ён знайшоў, але няхай ведае, што сярод шматлікіх скарбаў яму ўдалося ўбачыць адзіны. Няхай не кажа, што слова слабое і кепскае, і няхай не пагарджае ім на той падставе, што яму давялося мець удзел у малой яго частцы. Але, няздольны да поўнага разумення, няхай лепш праслаўляе Бога за Яго невымернасць. Дык жа радуйся, бо насыціўся, а не засмучайся з таго, што багацце слова перавышае тваю смагу. Хто чуе смагу, той п'е з радасцю і не засмучаецца, што не здолее выпіць крыніцы. Няхай лепш крыніца перавышае тваю смагу, чымсьці смага магла б вычарпаць крыніцу. Калі наталіш смагу, не вычарпаўшы крыніцы, можаш наноў піць з яе, калі толькі адчуеш смагу. Бо калі б з наталеннем смагі знікла таксама і крыніца, то гэткая перамога над ёю стала б для цябе няшчасцем.

Дык жа будзь удзячны за тое, што атрымаў, і не засмучайся з багацця таго, што засталося. Тое, што ты займеў і забраў, ужо твая ўласнасць, а тое, што засталося, таксама чакае цябе. Тое, чаго ты не мог з прычыны слабасці атрымаць адразу, атрымаеш пазней — калі вытрываеш.

ПАРАФІЯЛЬНАЕ ЖЫЦЦЁ

# Святыня ў цесным вагончыку

На дварэ – мінусавая тэмпература, няветлы марозны вецер. У вагончыку-бытоўцы, які вось ужо два гады з'яўляецца цэнтрам усяго жыцця Жодзінскай каталіцкай парафіі, холадна. Недзе адразу ж пасля да Бога свае малітвы, у мяне весялее на душы. Вось я нарэшце і трапіла сюды, у парафію, пра якую нямала чула раней. Менавіта пра тое, як яна жыве і будуе сваю святыню, як моліцца ў цесным, нязручным і надта ж халодным вагончыку-бытоўцы. Тут, у гэтым убогім вагончыку, разам з імі заўсёды ёсць Езус...


У час адарацыі Найсвяцейшага Сакрамэнту

Успыхваюць свечкі, у поўнай цішы манстранцыя займае сваё месца на алтары. Колькі хвілінаў ціхай адарацыі Езуса ў Найсвяцейшым Сакрамэнце, і святар распачынае ружанец да Найсвяцейшай Марыі Панны – з просьбай аб


Ля сценаў будучай святыні Маці Божай Фацімскай

пацераў я пачынаю з зайздрасцю пазіраць на цёплыя паліто, рукавіцы ды валёнкі мясцовых парафіянак. Каму не пазайздросціш, дык гэта арганістцы, бо гэткай сцюжай выводзіць мелодыі на халодных клавішах, да якіх амаль прыстываюць на хаду пальцы, вядома ж, нялёгка. Яна раз-пораз хукае на рукі, намагаючыся іх сагрэць, але не адступаецца – яшчэ і яшчэ раз кранае інструмент. Мая суседка, мабыць, адчуўшы, як няўтульна мне з непрывычкі, шэптам раіць мне падкласці пад калені падушачку – каб было цяплей. З радасцю карыстаю з гэтага вынаходніцтва, народжанага сярод сцюжы адбудовы нашых святыняў, і ці то ад гэтай падушкі, ці то з тае прычыны, што арганістка ўсё ж грае, а мае суседкі ціха мовяць

дапамозе ў кшталтаванні духоўнага жыцця парафіі, а таксама просячы ў Маці Божай дапамогі ў будове Яе святыні – касцёла Маці Божай Фацімскай.

Парафія ў Жодзіне – гэта малітва на ўскрайку сучаснага горада, які ніколі не меў каталіцкай святыні. Але католікі, вядома ж, былі , ды толькі ім даводзілася ездзіць на набажэнствы за няблізкі свет.





Цяпер малітва творыцца тут, здаля ад шумных вуліцаў і слыннага БелАЗа. Убогі вагончык – ніякі не выклік каму-небудзь. Прыгадаем лепш адпаведнае месца з Евангелля: "бо не было ім месца ў заездзе".

Калі ксёндз марыянін Марк Жук упершыню ўбачыў вагончык, які парафіяне ўстанавілі на месцы, адведзеным гарадскімі ўладамі для будовы касцёла, ён сказаў коратка: "Як сабе хочаце, але Святую Імшу я не змагу ў ім адпраўляюць". Надта ж ужо непрыемны выгляд мела гэтая іржавая спаруда, здабытая з металалому. Але парафіяне ачысцілі сцены ад іржы, звонку пафарбавалі, знутры паклеілі, неўзабаве з іхніх кватэраў сюды перакачавала некалькі дываноў. І пачалася малітва. Вядома ж, разам з пробашчам – ксяндзом Маркам. З першага ж дня – супольны Ружанец перад Найсвяцейшым Сакрамэнтам, потым – Святая Імша. І так – кожны дзень...

Ксёндз Марк упэўнены: Маці Божая літасціва прыняла іхні да Яе давер, бо пасля першай жа супольнай ружанцовай малітвы быў выразны знак – у наступную нядзелю прыйшло амаль што ўдвая больш людзей. У хуткім часе стала зразумела: вагончык не здольны змясціць усіх парафіянаў. Мужчыны ўзяліся за справу, і хутка іхні вагончык падаўжэў удвая – на дашчаную прыбудоўку.

Улетку побач з вагончыкам зрабілі драўляны насціл, а над ім навес – месца для святара, усе ж астатнія цудоўна адчуваюць сябе на Святой Імшы і пад адкрытым небам. А праз некалькі метраў закладваўся падмурак будучае святыні. Увесь гэты час яны былі і застаюцца поруч: праца душы і праца рук чалавечых. І няма сумненняў у тым, што першае вельмі моцна падтрымлівае другое. Інакш хіба маглі б гэтыя сцены гэтак імкліва вырасці? 7 кастрычніка 1996 года, на урачыстасць Маці Божай Ружанцовай, пробашч пасвяціў чыстае поле, на якім планавалася распачаць будову касцёла. У той жа дзень Святая Імша адбылася менавіта на гэтым месцы. Гэтыя падзеі добра зафіксаваны на здымках. А той здымак, на якім парафіяне сфатаграфаваліся разам са сваім пробашчам ужо


Гэты незабыўны дзень — Першая Святая Камунія

каля сценаў будучае святыні, зроблены ўсяго толькі праз год і два месяцы! Ну, што тут скажаш? Магутная ты, сіла малітвы. І якая ж спагадная любоў Маці Божай да сваіх дзяцей, што з адкрытым сэрцам звяртаюцца да Яе, просячы падтрымкі! "Інакш, хіба мог бы я,– кажа ксёндз Марк,– не маючы ні пастырскага вопыту, каб кіраваць парафіяй, ні будаўнічага, каб кіраваць будаўніцтвам, наладзіць усю справу так, каб яна рухалася наперад?"

Глядзіш цяпер на гэтыя сцены, якія ўжо чакаюць даху, і міжволі думаеш: колькі ж у іх укладзена пенсій ды заработнай платы жодзінскіх парафіянаў! Тых самых грошай, якія яны штомесяц адрываюць ад сямейнага бюджэту. На якія хтосьці не купіў сабе патрэбную абнову, а хтосьці адмовіў сабе ў смачнейшым кавалку на стале. Хтосьці замест таго, каб пасля працы палоць грады ў сваім агародзе, ідзе на будоўлю святыні і працу там да позняга вечара. А хтосьці згатуе перакуску і прынясе на будоўлю – падмацаваць рабочых. А яшчэ варта. Парафіяне вартуюць сваю будучую святы-

ню і ўдзень і ўначы. Несумленных людзей, ласых да чужога кавалка, на жаль, яшчэ хапае. І, на жаль, яшчэ так шмат тых, хто не ведае сёмай запаведзі! Знайшліся ж вунь “смельчакі” і не пабаяліся зрэзаць драўляны крыж, які жодзінскія католікі ўстанавілі на самым пачатку на тым месцы, дзе яны цяпер моляцца. Як напамін пра ўчыненае святатацтва яшчэ і цяпер з зямлі вытыркаецца рэшта знішчанага крыжа. А побач высіцца новы – з металу.

Як ні дзіўна гэта гучыць, але, нягледзячы на ўсе складаныя ўмовы, Жодзінская парафія жыве паўнацэнным жыццём. Вернікі маюць магчымасць прымаць усе сакрамэнты, штодня ўдзельнічаць у Святой Імшы, штодня адараваць Езуса ў Найсвяцейшым Сакрамэнце, маліцца ружанец. Тут святкуюць усе святы, нават адбываюцца ўрачыстыя працэсіі. А калі чарговая група дзяцей упершыню прымае святую Камунію – гэта вялікая падзея для ўсёй парафіі. Дарэчы, дзяцей даволі шмат. Зноў жа, можна было б дзівіцца: якая-такая тут дзейнічае прыцягальная сіла? Згадзіцеся, шаноўныя чытачы, не кожны святар можа з упэўненасцю сказаць пра сваю парафію: “Яна мае перспектывы, бо тут ёсць дзеці і моладзь. І нямала”. У чым жа тут сакрэт? Ну, была б прыгожая святыня, а пры ёй катэхетычная зала для дзяцей, месца, дзе магла б сабрацца моладзь, – тады было б больш зразумела. Тут жа, у вагончыку, не хапае месца ўкленчыць...

Але выйсце ўсё ж можна знайсці. Узімку, калі надта ж нязручна праводзіць катэхізацыю ў няветлым холадзе, яна адбываецца ў часе Святой Імшы: Святар вядзе дыялог з дзецьмі, задае пытанні ім, адказвае на іхнія. Не надта прывычна. Але той дыялог слухае ўся парафія, і старэйшыя таксама чуюць шмат карыснага для сябе. Моладзь жа разам са святаром ладзіць сустрэчы па серадах. На кватэры. Нязручна, вядома, але хто сказаў, што катэхізіс можна вывучаць толькі ў спецыяльным, адведзеным для гэтага месцы? А потым, пасля сур’ёзных размоў, можна і паспяваць, тым больш, што святар таксама вельмі любіць спяваць, асабліва пад гітару.

Часам жодзінскага ксяндза можна сустрэць у нейкай гарадской школе, дзе ён таксама вядзе гаворку з дзецьмі ды моладдзю на вечныя тэмы. Так ужо выпадкова сталася, што мне давялося пабыць разам з ксяндзом Маркам і ў мясцовай школе-інтэрнаце. Сустрэча планавалася на заўтрашні дзень, але трэба было яшчэ абмеркаваць яе асобныя дэталі з дырэктарам...

Узнагароду за сваё неспакойнае жыццё святар усё ж мае: у той момант, калі на чарговай Імшы ў цесным вагончыку бачыць новы дзіцячы альбо юначы твар. Альбо калі хтосьці з зусім невядомых дарослых раптам перадасць грошы на будову касцёла. Вядома, яшчэ большай была б радасць святара, каб той чалавек і сам прыйшоў памаліцца, але хто ведае, можа, тое ахвяраванне і станецца пачаткам яго малітвы?

Пройдзе пэўны час і дзеці ды моладзь будуць мець магчымасць ладзіць свае сустрэчы ў лепшых умовах: праектам прадугледжана даволі прасторная зала і іншыя памяшканні ў падвале касцёла. Зрэшты, падвал ужо пабудаваны, можна чакаць, што ў хуткім часе тут пачнуць яго выкарыстоўваць.


Прымаючы Нябесны Хлеб...



AveMaria


У Жодзінскім вагончыку неўзабаве распачнецца Святая Імша

Парафіяльнае свята ў Жодзіне – 13 мая, дзень, калі Маці Божая ўпершыню з’явілася траім пастушкам у даліне Кова да Ірыя, блізу Фацімы. Было гэта ў далёкай Партугаліі, за тысячы кіламетраў ад беларускага горада Жодзіна. Маці Божая з вялікім клопатам папярэджвала тады аб трагічнай небяспецы, якую нясе свету адступніцтва ад Бога. І асабліва Яна папярэджвала людзей, што жывуць на нашых землях. Яна прасіла навяртання, малітвы, Яна прасіла ахвярнасці. Пабыўшы на ўскраіне Жодзіна, дзе мясцовыя католікі моляцца да Бога, раптам выразна адчуеш гэтую вялікую сувязь, што яднае розныя краі і народы, розныя пакаленні людзей.

У розных гарадах, мястэчках, вёсках Беларусі людзі шмат моляцца да Бога, давяраюць Яму свае патрэбы і клопат. Але ці кожнае наведванне касцёла – сапраўдная малітва? Відаць, усё ж не. Ды ў халодным, цесным вагончыку ў Жодзіне раптам з радасцю адчуеш: ёсць яна – жывая, сапраўдная малітва! Цяжка тое вытлумачыць словамі – гэта трэба адчуць. Вядома ж, на малітве.

У той дзень, які я правяла ў Жодзіне, чамусьці ў свядомасці ўвесь час гучала песня пра тое, як не хапіла Хрысту месца ў Бэтлеемскай гасподзе. Колькі ж бедаў зведалі людзі ўсіх краеў і народаў, калі не жадалі даць Яму месца! Зрэшты, мы, беларусы, не выключэнне. Гэтая горкая песня і пра нас таксама, гэтыя словы і пра нас:

*Дык чаму ж сёння на свеце*
*Слёзы, бяда, паняверка?*
*Бо не хапае зноў месца*
*Богу ў душы чалавека.*

Як жа радасна, што гэтае месца жодзінцы намагаюцца знайсці! Разам са сваім святаром яны будуюць яго – узводзяць святыню. А адначасна тое месца дбайна знаходзяць у чалавечых душах, ва ўсялякім разе, у тых, што аднойчы пераступілі парог няўтульнага вагончыка і ўкленчылі прад Богам.

*Ірына Жарнасек*


Споведзь у Жодзіна

ПАРАФІЯЛЬНАЕ ЖЫЦЦЁ



"Пане, прымі малітву маю..."

# Першыя крокі парафіі

Гэта абавязкова споўніцца. Раней ці пазней. На пачатку наступнага тысячагоддзя ці ўжо напрыканцы адыходзячага. У аблічы маленькага гарадка Смалявічы несумненна з'явіцца прыгожы сілуэт каталіцкай святыні. Гэта будзе касцёл святога Валянціна.

Чаму будзе? Касцёл ужо ёсць. Пакуль зусім не падобны да традыцыйнай святыні, бо гэта звычайны будаўнічы вагончык. "Касцёл там, дзе ёсць вера і малітва," – скажа любы вернік парафіі святога Валянціна.

Першая і пакуль адзіная ў Беларусі парафія, якая абрала сваім апекуном святога Валянціна, з'явілася ў Смалявічах два гады назад. Зразумела, маладой і невялікай парафіі пачынаць свой шлях адразу з будаўніцтва храма было не па сілах. Але магутная вера і непераадольнае жаданне ўсё ж павялі да Пана Бога.



"Хрыстус заўсёды нам благаславіць"

Пакуль рыхтуецца праект, пакуль гарадскія ўлады абмяркоўваюць хадайніцтвы католікаў і асцярожна "даюць дабро" на незвычайнае будаўніцтва, вернікі парафіі наладжваюць сапраўднае хрысціянскае жыццё – моляцца, бяруць шлюбы, хрысцяць дзяцей. Адпраўляе набажэнствы ксёндз Анатоль Ярошка. Спачатку збіраліся ў доме, пазней, калі месца стала не хапаць, – каля каталіцкіх могілак. Дзякуючы мясцоваму фермеру (ён жа старшыня парафіяльнай рады) займелі новы дах – гэты вагончык. "Наша капліца" – з любоўю і пашанай называюць сваю незвычайную святыню смалявіцкія католікі, якія ручаінкамі сцякаюцца да вагончыка кожную нядзельную раніцу і ў кожнае свята.

Якой жа радасцю напоўняцца сэрцы вернікаў, калі расчыняцца дзверы новай святыні, узведзенай іхнімі рукамі! Дасць Бог, не доўга прыдзецца чакаць гэтага дня!

*Анатоль Кляшчук.*

*Фотаздымкі аўтара*

*Здымкі зроблены ў Дзень святога Валянціна і ў Папяльцовую Сераду ў Смалявічах.*



Папяльцовая Серада ў парафіі св.Валянціна



У часе Святой Імшы

ПАЭЗІЯ

*Наталля Арсеннева*

## Радасць

Адтрымцела – у гневе – зямля…
Сплыў натоўп, правіць свята, у сховы…
Змрок прыпоўз на Крыжовы Шлях,
твар палаў на слядох Хрыстовых…
Чорны ветразь накрыў магіл
скальных шчырбы, муры, гасцінец…
Нат Гальгота –
вось-вось вуглі
познай весняй пагары скіне.
Тлее жухла йшчэ толькі крыж,
той, з якога із плачам
Сына
цела Маці зняла… Гарыць
ён, як боль Ейны,
ці астыне…
і здаецца крыжу – не, крыжом
(два ўсцяж злыдняў трымаюць поруч) –
не стрываюць
ані ім ужо,
ні шырокаму свету – гора…
Ён сканаў –
дык сканала ўсё.
І дармо той сявец ці араты
ніву кратаў, дармо ля красён
гнулі пруткія плечы дзяўчаты,
ткала парасткі весняя ноч,
слалі кагаркі гнёзды на скалах,
адплывала на ловы чаўно,–
ўсё дармо,
бо ж Яго не стала!
Ды ці ж знаюць,
хай ноч, хай сявец,
што ад Госпада
наканавана?
Басанож па сцюдзёнай траве
міраносіцы беглі
саван
зняць з прабітага Цела, зрасіць
і слязьмі, і пахошчамі раны –
а Сын Божы –
ці ж веры дасі! –
уваскрос!
Уваскрос! Гасанна!
Крылы вецер раскінуў, узняў
над крыжамі й паплыў
даляглядам
весціць радасць Вялікага Дня,
Уваскрошання светлую радасць.
Радасць скрозь, бо ж на свеце вясна,
сонца, наквець, вясновыя ліўні…
Расшуміцца й Табе яна,
край мой родны
і незабыўны!

## І была там вясна…

***…але вочы іх былі стрыманы,***
***дык не пазналі Яго.***

*Ев. паводле св.Лукі*

І была там вясна,
як наша,
хай не лозы цвілі, а міндаль:
распалялі зялёныя пашы
весніх красак пурпурны вугаль,
па далінах бляялі ягняты,
маткам тулячыся да ног,
і буйных белых зор зярняты
пассыпалі лілеі ў лагох…
Срэбна-шэра
курэў гарэшнік,
шнур алівак і вінных лоз…
А вясне напярэймы, сцежкай,
ціха йшоў
Уваскрослы Хрыстос.
Сам
– нясцерпнае ззянне –
у ззянні,
смерцяй смерць растаптаўшы ушчэнт.
Ён ішоў, і нязгойныя раны
на чале ірдзянелі яшчэ…
У дзіўным, у святым захапленні
Богу-Сыну малілася ўсё –
агарож прыдарожных каменні,
маладых ячмянёў каласcё,
цёплы вецер, што згортваў з дарогі
вір пялёсткаў… і сонечны пыл…
і трава, што прабітыя ногі
цалавала, схіліўшы сцяблы…
А паслей –
пацягнуўся шляхамі,





ў скрыпе рогату, крыкаў, калёс,
і народ…
Толькі хто з іх, няўцямных,
знаў, што побач –
Ускрослы Хрыстос?
Прарлывалі,
сляпыя,
міма
Боскіх цёплых, пясцівых рук
юнакі з залатымі вячыма,
сцені старцаў, сагнутых у крук,
ды ніхто не схінуў каленаў,
да далоняў святых не прынік,
хай прад сцерплай ад слёз Магдаленай
на імгненне і ўзнік Садаўнік.
І ніхто не азваўся:
"Равуні",
сам не верачы ў шчасці вачам,
змарагдовых пальмовых галінаў
наламаўшы,
не выбег страчаць…
Падцікаўся нячутна вечар,
сіні змрок…
і не бачыў ніхто
з недарэчных сыноў чалавечых,
як мінаў іх,
раз сто,
Хрыстос,
як ішоў Ён, схіліўшы на грудзі,
светлы твар Свой,
паўз весняй хвалы…
Гора,
гора,
о гора вам, людзі,
бо і сёння
сляпыя вы!

*Масей Сяднёў*

## Распяты Хрыстос

Трывогай адазвалася сягоння:
як можа чалавек вякамі
глядзець на распасцёртыя далоні,
прабітыя наскрозь цвікамі?

Праходзіць міма з лёгкім сэрцам?
А Ён, як быццам нейкі Найміт,
распяты на крыжы, праз цэлыя сталецці
усё крывавіцца прад намі.

Зірнеце толькі на пакуты
і на цярпенні ў твары Божым:
цвікамі да крыжа прыкуты,
ні рук, ні ног Ён вызваліць не можа.

Як самы вінаваты з вінаватых,
пакут не можа збыцца Ён нязмерных,
Ён, што лячыў сляпых і беснаватых,
Ён, што ўскрос із мёртвых.

… Прыйшоў я да Цябе сягоння
не дакранацца ран Тваіх рукамі,
а ціха цалаваць Твае далоні,
прабітыя наскрозь цвікамі.

*Эльвіра Ярчак*

## Вялікдзень

Прыйшоў Вялікдзень –
свята светлае,
Сам Бог зямельку бласлаўляе,
Смяецца сонейка прыветнае,
Птушыны спеў звініць над
гаем
І сэрца дабрынёю поўніцца
І спачуваннем да пакуты,
І зноў у храмах людзі
моляцца –
Хай будзе слова іх пачута,
Каб спраўдзіліся мары
гожыя
І каб табе, о мой народзе,
Спрыяла ласка Сына Божага,
Каб гнеў яго нас абыходзіў.
Каб помнілі дзядоў і прадзедаў
І іх штандар чырвона-белы,
Каб Слова, што нам Богам
дадзена,
Душу нашчадкаў нашых
грэла.

АБАРОНА ЖЫЦЦЯ

# ПАМЯТАЙЦЕ ПРА НЕНАРОДЖАНЫХ ДЗЯЦЕЙ...



Агульнавядома, што з 1993 года наша рэспубліка пачала выміраць — смяротнасць значна апярэджвае нараджальнасць. Па некаторых падліках вучоных праз 50 гадоў на зямлі можа не застацца ніводнага беларуса. Да таго ж тут не ўлічваюцца страшэнныя лічбы забойстваў ні ў чым не павінных дзяцей, якіх бацькі пазбавілі жыцця яшчэ да іх нараджэння. Штогод на Беларусі гіне звыш 200 тысяч такіх дзетак. Па колькасці гэта цэлы горад сярэдніх памераў. І так кожны год. Колькі ж знішчана на Беларусі такіх гарадоў за 10, 20, 50 гадоў?! Не трэба войнаў і катастрофаў — людзі самі знішчаюць сабе падобных. Ды каго? Маленькіх, бязвінных дзетак. Сваіх дзетак! Да чаго ж дайшоў чалавек у сваім паталагічным эгаізме. Нават у жывёл няма такога. Кожная жывая істота з братоў нашых меншых ратуе сваё дзіця як толькі можа. Нярэдка ахвяруе ўласным жыццём, каб выратаваць патомства. І толькі чалавек сам нясе сваё дзіця на пакутніцкую смерць у абартарый. А тое, што гэта дзіця страшна пакутуе падчас аборту, яскрава паказвае дакументальны фільм амерыканскага доктара Бернарда Натансана "Немы крык", які быў зняты з дапамогай ультрагукавой апаратуры. На экране мы бачым, як маленькае дзіцятка ва ўлонні сваёй маці ўцякае ад страшных інструментаў, якімі ўрач хоча яго забіць. Сэрца немаўляткі б'ецца звыш 200 udараў у хвіліну. І раптам ён шырока адкрывае роцік у сваім немым крыку.

Крыкі гэтых шматлікіх бязвінных ахвяраў стаяць над нашай зямлёй. Людзі з каменнымі сэрцамі іх не чуюць. Але ўсё чуе Бог. І некалі Божае цярпенне скончыцца. Аб гэтым са слязьмі на вачах папярэджвае ўсіх людзей Маці нашага Збавіцеля Езуса Хрыста ў Меджугор'і (былая Югаславія), дзе вось ужо 16 гадоў Яна аб'яўляецца шасці былым пастушкам.

Калі адна з візіянерак запытала ў Яе пра грэх аборту, Панна Марыя сказала: **"Бог вельмі міласэрны, Ён прабачае чалавеку ўсе грахі, у якіх той шчыра раскайваецца. Аднак грэх аборту... Гэта так страшна! У такім граху чалавек павінен раскайвацца ўсё жыццё да самай смерці — аднолькава як жонка, так і муж. Да таго ж, рабіць усё магчымае, каб іншыя не ўчынілі падобнага зла..."**

Што і казаць, многія з нас прама ці ўскосна прычыніліся да гэтых злачынстваў. Калі сам не рабіў, то, можа, раіў іншаму. А можа, не стрымаў, не адгаварыў, не дапамог добраю парадаю таму, хто гэтага патрабаваў. Памятайма: без шчырага жалю, без пакуты за такія ўчынкі няма выратавання.

"Не ўсякі, хто кажа Мне: *Госпадзе! Госпадзе!* увойдзе ў Валадарства Нябеснае..." (Мц 7,21) Гэта сказаў Езус Хрыстус і пра тых, хто лічыць сябе вернікам, нават моліцца і бывае ў споведзі, а потым ідзе ў клініку і забівае сваё ненароджанае дзіця. На вялікі жаль, такіх "вернікаў" шмат.

Вось некалькіх сумных прыкладаў.

У 6-й бальніцы Мінска штодня з 8 гадзін раніцы збіраюцца жанчыны амаль з усяго горада, каб пазбавіцца ад свайго дзіцяці. Іх заўсёды шмат. Слухаць пра тое, што грэх рабіць аборт яны, як правіла, не хочуць. Але ўлёткі "Пощади меня, мама", газету "Дар жыцця" ўсё ж бяруць. У сваё апраўданне заўсёды прыводзяць адны і тыя ж аргументы: "Цяжкае матэрыяльнае становішча", "не трэба разводзіць жабрацтва"

Пытаемся: "Вы ведаеце, што аборт — гэта забойства дзіцяці?" Адказваюць амаль усе: "Ведаем".

А вось на наступнае пытанне: "Скажыце, якую праблему ў жыцці можна вырашыць забойствам?" — ніколі няма адказу.

Гэтая сумная дыскусія, як правіла, заканчваецца лаянкаю некалькіх жанчын у наш адрас. У такіх выпадках мы выходзім на вуліцу і молімся за выратаванне іх ненароджаных дзяцей і іх саміх.

І вось аднойчы ў такі момант бачым, як подбегам (відаць, баялася спазніцца) спяшаюць у бальніцу пажылая жанчына з маладою дзяўчынаю. Мы прапанавалі ім сваю літаратуру супраць абортаў. Узялі. Больш таго, газету "Дар жыцця" чыталі раней. Аказалася, абедзве — практыкуючыя каталічкі. Старэйшая — адна з тых, хто сядзіць у касцёле ў першых лаўках. Яна прывяла сваю пляменніцу на гэтую страшэнную аперацыю. Дзяўчына баялася сказаць сваёй маці і даверылася "добрай" цётцы. А тая, замест таго, каб ратаваць жыццё дзіцяці і душу маладой дзяўчыны, вырашыла і сваю душу загубіць.

"Вера без справы мёртвая", — сказана ў Евангеллі. Бог пасылае кожнаму выратаванні, каб праверыць моц ягонай веры. І вельмі часта мы аказваемся ў душы проста недавяркамі. Як мы ні ўгаворвалі гэтых жанчын, што толькі ні казалі і што ні прапаноўвалі — нічога не дапамагло. Пажылая толькі адказала, што потым яны пойдуць у касцёл на споведзь і ксёндз адпусціць гэты грэх.

Няма жадання каментаваць гэты ўчынак — Бог усім суддзя. Адно хочацца сказаць: ніхто не мае права злоўжываць, а ў дадзеным выпадку – проста здзекавацца з Божае міласэрнасці.

Нядаўна, раздаючы ў гэтай жа бальніцы літаратуру супраць абортаў, пачулі ад жанчыны ў футры з натуральнага дарагога меху: "Мне не патрэбна ваша баптысцкая літаратура, я іншай веры". "Якой жа?" — пытаемся.

Жанчына не без гонару адказвае: "Каталіцкай".

"Мы ж таксама, — узрадавана адказваем ёй, — няўжо вы па выяве Матачкі Божай на гэтай кніжачцы пра Фаціму не зразумелі?"

Але жанчына старалася адвярнуцца ад нас і прыгаворвала: "Вы мне будзеце карміць гэта дзіця?" Яна, аказваецца, прывяла на аборт сваю дачку гадоў 18—19, якая ўвесь час плакала. Было відаць, што дзяўчыну гвалтоўна прыцягнулі сюды. Бог спрабаваў спыніць гэту "маці" не толькі праз нас. Так здарылася, што побач стаяла жанчына, якая прыйшла ў бальніцу на аперацыю па выдаленні пухліны. Узрушаная нашай размовай, яна са слязьмі на вачах звярнулася да нас: "Можа, вы зможаце што-небудзь параіць мне і маёй дачцы? Што рабіць, дзе шукаць паратунку?"

Аказалася, што гэта жанчына таксама калісьці прывяла сваю дачку на аборт. Тая не хацела гэтага, прасіла маці, каб злітавалася над ёй і над яе дзіцяткам. Але дарэмна. І вось падчас аборту дзяўчына пачула страшны крык свайго дзіцяці, якое забівалі. Як гэта здарылася, ведае толькі Бог. З таго часу яна часта чуе гэты крык, ён стаіць у яе вушах, не дае спакою. У яе пачаўся неўроз, потым псіхоз. А цяпер стаіць пытанне, каб абследаваць яе ў псіханеўралагічным дыспансеры ў Навінках.

На вялікі жаль, гэты аповед не крануў душы жанчыны ў багатым футры. Яна спакойна ўпіхнула сваю дачку ў страшэнны пакой, дзе забіваюць дзяцей і людскія душы.

Божа! Якое ж бясконца вялікае Тваё цярпенне! Якая ж невымерная моц Тваёй міласэрнасці! Прабач нам, добры Ойча, бо не ведаем, што робім. Асвяці, дапамажы, уратуй!

— Прабач ім! — просіць Езуса Хрыста Маці Божая ў Меджугор'і. Часта візіянеры бачаць Найсвяцейшую Панну Марыю на каленях, якая са слязьмі на вачах моліць: "Сын Мой улюбёны, прашу Цябе, прабач свету цяжкія грахі, якімі Цябе зневажаюць!.."

А гэты зварот Багародзіцы ўжо непасрэдна звернуты да нас:

**— Хачу ўзрушыць вашыя сэрцы, каб прыйшлі да вялікай малітвы, памятайце пра ненароджаных дзяцей... Кара вісіць над светам за цяжкі грэх матак, якія забілі сваіх уласных дзяцей. Тыя дзеці плачуць... іх трэба ратаваць. Яны чакаюць вашых малітваў, вашай дапамогі. Тых дзяцей шмат мільёнаў. І кожны дзень колькасць гэтых страшэнных забойстваў павялічваецца. Дапамажыце Мне ратаваць гэтых дзяцей і іх матак!**

Кожны сапраўдны вернік не можа застацца абыякавым да слоў Маці нашага Збавіцеля, нашай Маці. Касцёл заахвочвае вернікаў да духовай адаптацыі (духоўнага ўсынаўлення) ненароджаных дзяцей. Гэта — малітва на працягу 9 месяцаў за адно дзіця, якому пагражае небяспека аборту. Дзякуючы вашай малітве такое дзіця будзе ўратавана.

*Спадзяемся, што і вы, нашыя дарагія чытачы, прычыніцеся да Божай справы выратавання ненароджаных дзяцей.*

*Галіна КАЛЕВІЧ*

## МАЛІТВА ЗА НЕНАРОДЖАНАЕ ДЗІЦЯ, ЯКОМУ ПАГРАЖАЕ НЕБЯСПЕКА АБОРТУ

***Уступная малітва адгаворваецца толькі адзін раз у той дзень, калі распачынаецца духовая адаптацыя:***

*Найсвяцейшая Панна, Багародзіца Марыя, усе Анёлы і Святыя!*

*Натхнёны (натхнёная) імкненнем дапамагчы ў абароне ненароджаных дзяцей, пастанаўляю і абяцаю, што з дня .................., ва ўрачыстасць ................. духова ўсынаўляю адно дзіця, імя якога ведама аднаму толькі Богу, каб на працягу 9 месяцаў кожны дзень маліцца аб выратаванні яму жыцця, а таксама за яго справядлівае і пабожнае жыццё пасля нараджэння.*

***Наступная малітва адгаворваецца кожны дзень на працягу 9 месяцаў:***

*Пане Езу, праз заступніцтва Марыі, Маці Твае, Якая нарадзіла Цябе з любоўю, а таксама праз заступніцтва святога Юзафа, чалавека даверу, які апекаваўся Табою пасля народзін, — прашу Цябе ў інтэнцыі гэтага ненароджанага дзіцяці, якое духова хачу ўсынавіць і якое знаходзіцца ў небяспецы аборту. Прашу, дай яго бацькам любоў і адвагу, каб яны не забівалі свайго дзіцяці, а пакінулі яму жыццё, якое Ты Сам гэтаму дзіцяці прадвызначыў. Амэн.*

А таксама адгаворваецца адна любая Таямніца Ружанца, пасля споведзі прымаецца Святая Камунія ў інтэнцыі ненароджанага дзіцяці; робіцца справы міласэрнасці.

# На службе міласэрнасці

## Кангрэгацыя Сясцёр Міласэрнасці св.Вінцэнта дэ Поля – служабніцаў убогіх.

"...Сапраўды кажу вам: тое, што вы зрабілі аднаму з гэтых меншых братоў Маіх, вы зрабілі мне" ( Мц 25, 40).



Св. Вінцэнт дэ Поль

Кангрэгацыя сясцёр Міласэрнасці была заснавана ў1633 годзе ў Парыжы св.Вінцэнтам дэ Полем (1581-1660) і св.Луізай дэ Марыльяк (1591-1660). Святы Вінцэнт нарадзіўся у беднай сялянскай сям'і, вучыўся дзякуючы дапамозе вясковага пробашча. У1600 атрымаў святарскае пасвячэнне, быў душпастырам на парафіі, а потым стаў капеланам сям'і дэ Гондзі. Вінцэнт дэ Поль набыў вядомасць дзякуючы свaім палымяным казанням, якія прыводзілі шматлікіх грэшнікаў да споведзі і навяртання. У 1625 годзе ён заснаваў Кангрэгацыю святароў місіянераў. Добра ўсведамляючы, што сапраўдная місія немагчымая без справаў міласэрнасці, у 1633 годзе ён заснаваў Кангрэгацыю сясцёр Міласэрнасці (шарытак). Францыя назвала Вінцэнта дэ Поля "айцом убогіх". Святы Вінцэнт дэ Поль памёр 27 верасня 1660 года ў Парыжы, кананізаваны ў 1737 годзе. У 1885 годзе – абвешчаны апекуном усіх справаў міласэрнасці, якія робяцца ў каталіцкім Касцёле. Святы Вінцэнт усё жыццё стараўся звяртаць увагу шырокіх колаў грамадства, асабліва заможных людзей, на патрэбы бедных. Аказалася, што толькі чыста матэрыяльных сродкаў недастаткова, бо для пераадолення беднасці патрэбна служэнне ўласным часам, працай рук, а перадусім – сэрца.

Такую дапамогу ён атрымаў ад простых вясковых дзяўчат. Ведаючы,што такое бядота, яны разумелі гаротных. Ім, гатовым працаваць, не хапала толькі фармацыі. На дапамогу прыйшла Луіза дэ Марыльяк, чулая і выхаваная жанчына.



Дзіцячы парафіяльны тэатр у Брэсце

Яна нарадзілася ў Парыжы, належала да найслаўнейшых французскіх родаў XVII стагоддзя. Хацела стаць законніцай, але мела слабое здароўе і па парадзе спаведніка выйшла замуж. Пасля смерці мужа ў 1625 годзе яна пазнаёмілася з а.Вінцэнтам, які адкрыў перад ёй "мора французскай гароты". Маючы вялікі досвед цярпення, яна стала ў 1633 годзе першай выхавацелькай, настаўніцай і сузаснавальніцай Кангрэгацыі сясцёр Міласэрнасці. 5–6 дзяўчат на чале з св.Луізай сталі выключнай падзеяй у Касцёле. Раней усе жаночыя законы мелі затворніцкі характар. Сёстры Міласэрнасці, калі хацелі служыць убогім, не маглі зачыніцца ў кляштары. Святы Вінцэнт пісаў: "Кляштарам будзе ім дом хворых, келляй – наняты пакой, капліцай – парафіяльны касцёл, дартуарамі – гарадскія вуліцы або палаты ў шпіталях, затворам – послух, кратамі – багавейнасць, вэлюмам – святая сціпласць.



Сястра дзяжурыць пры хворай пасля аперацыі

Сёння 27 тысяч сясцёр працуюць у 86 краінах. Яны ідуць за Хрыстом, наведваючы хворых і вязняў, працуючы ў шпіталях і дзіцячых дамах, навучаючы дзяцей і моладзь. Кожны ўбогі – гэта сам Езус, які просіць дапамогі. З 1990 года сёстры працуюць на Беларусі і на Украіне. У Брэсце сёстры наведваюць хворых, бедных, нягледзячы на веравызнанне і светапогляд, катэхізуюць дзяцей, моладзь, дарослых, апякуюцца Касцёлам.

"Ад імя Касцёла даручаю вашай увазе і Божай любові, якой палаюць вашыя сэрцы, уцекачоў, згаладалых, ахвяраў наркаманіі і абяздоленых людзей... Ідзіце, дарагія сёстры, па ўсім свеце! Касцёл вельмі разлічвае на вас" (Ян Павел II). Калі прагнеш прысвяціць сваё жыццё служэнню іншым, звяртайся на гэты адрас:



Гэтай жанчыне патрэбна апека...

*Сёстры Міласэрнасці*
*зав.Ламаносава 7/1*
*224020 Брэст*



Сёстры Міласэрнасці з моладдзю на канікулах з Богам

# СУПОЛЬНАСЦІ СЯСЦЁР ЭЎХАРЫСТАК – 75!

19 сакавіка 1998г. Супольнасць сясцёр эўхарыстак адзначыла свой 75-гадовы юбілей. Святкаванне распачалося ў дзень св.Юзафа, апекуна Супольнасці.

У 1923г. біскуп Віленскай дыяцэзіі Юры Матулевіч у адным з лістоў напісаў: "Думаю аб тым, каб арганізаваць місійную працу ў духу Божым для простага люду..." Думкі гэтыя душпастыр Віленскай дыяцэзіі неўзабаве пастараўся рэалізаваць, бачачы, якую дапамогу можа аказаць жаночая супольнасць сваёю малітваю і ахвяраю.


Благаславёны Юры Матулевіч

Першаю пляцоўкаю для заснавання Супольнасці сясцёр эўхарыстак была абрана Друя, дзе працаваў вядомы сваёю пабожнасцю і адданасцю Хрысту ксёндз Антоні Зянкевіч. Менавіта туды 19 сакавіка 1923г. упершыню прыбылі дзве законныя сястры з мэтаю азнаямлення з умовамі жыцця і працы. Так у Друі пачалося фармаванне Супольнасці сясцёр служабніцаў Езуса ў Эўхарыстыі, якіх з часам пачалі коратка называць проста эўхарысткамі.

Вестка пра заснаванне жаночага кляштару хутка абляцела наваколле, і ў Друю пачалі прыходзіць і прыязджаць многія маладыя дзяўчаты, каб ахвяраваць сваё жыццё Хрысту. Іх генеральнаю маці была прызначана сястра Ванда Еўтэ, якая крыху пазней працавала таксама дырэктарам мясцовай гімназіі імя Стэфана Баторыя.

У хуткім часе біскуп Матулевіч прыслаў у Друю ксяндзоў марыянаў. Сёстры пасля гэтага перайшлі ў будынак, ахвяраваны ім адною парафіянкаю, які, у адрозненне ад мужчынскага кляштару, быў названы "кляштарыкам".

Жыццё ў гэтым кляштарыку пасля першай сусветнай вайны было вельмі цяжкае. Усё арганізоўвалася ад самага пачатку. Аднак дзякуючы ахвярнасці і працавітасці сёстры заснавалі швейную і ткацкую майстэрні, у якіх дзяўчаты авалодвалі прафесіяй, апекаваліся інтэрнатам, дзе жылі вучаніцы мясцовай гімназіі, працавалі ў прытулку для адзінокіх старых людзей і дапамагалі весці гаспадарку айцам марыянам.


Сёстры Эўхарысткі у час пілігрымкі ў Рым 1991 г.





Аднак найпершаю мэтаю і заданнем Супольнасці быў клопат пра ўшанаванне Найсвяцейшага Сакрамэнту, так, як гэта запісана ў чацвёртым пункце канстытуцыі: "Асабліваю і ўсё больш дасканалаю любоўю сёстры будуць атуляць Пана Езуса, утоенага ў Найсвяцейшым Сакрамэнце, імкнучыся ўвесь час усё лепш працаваць і наследаваць Хрыста, пранікацца і кіравацца Яго духам, усімі сіламі пашыраць Хрыстова Валадарства і ўсюды і ўсім несці Хрыста". Адпаведна гэтаму харызмату, сёстры ўдзельнічалі ў душпастырскай працы парафій, у якіх знаходзіліся, яны імкнуліся ў хрысціянскім духу выхоўваць дарослых, дзяцей і моладзь.


Урачыстасць бл. Ю.Матулевіча ў капліцы сясцёр Эўхарыстак у Вільні 1994 г.

Гэта прыгожая і такая патрэбная праца была нечакана перапынена другою сусветнаю вайною...

Пасля вайны частка сясцёр з Віленскай і Пінскай дыяцэзій выехала за мяжу, а тыя, што засталіся на тэрыторыі, занятай Саветамі, былі вымушаны пакінуць свае законныя дамы, у тым ліку і першы свой дом у Друі...

Пачаліся гады тулняня і нягодаў. Але кожная з эўхарыстак несла ў сваім сэрцы Хрыста, які дапамагаў выжыць, даваў сілы. А Дух Святы дбаў пра тое, каб Ім натхнёная справа не прапала і не згубіла свайго харызмату.

Пасля доўгіх гадоў пераследавання пачалося адраджэнне жыцця Супольнасці сясцёр эўхарыстак. З'явіліся новыя законныя дамы, новыя пляцоўкі працы. Цяпер эўхарысткі маюць іх ажно 31 у розных краінах. Іх генеральны дом знаходзіцца ў Прушкаве пад Варшаваю на вул.Завішы, 3. Свой навіцыят кандыдаткі з Беларусі адбываюць у Вільні. І таму, калі ў кагосьці з дзяўчат узнікне жаданне прысвяціць сваё жыццё ўшанаванню Хрыста, утоенага ў Эўхарыстыі, то можна звяртацца на адрас:

*2004 Vilnius, ul.Birutes, 19*
*LIETUVA*

Пастулат можа адбывацца ў розных дамах дэлегатуры, у тым ліку на Беларусі:

***222120, г.Барысаў, зав.Банны, 6.***


Пасвячэнне капліцы ў в.Удзела на Віцебшчыне 1994г.


Эўхарысткі апякуюцца хворымі

## Разам з Марыськай



***Сябры! Я рада зноў сустрэцца з вамі. Зрэшты, мы і не расставаліся, бо разам молімся – Ружанец. Скажу шчыра: вашыя лісты прыносяць мне шмат раласці. Вашы адказы таксама цешаць мяне, асабліва, калі яны напісаны акуратна і правільна, калі ў сваіх лістах вы хоць бы трохі распавядаеце пра сябе і пра тое, што цікавага адбываецца ў вашай парафіі. З радасцю я чытала лісты Марыі Шыманскай з в. Плашава Дзяржынскага раёна, Лены Бурак, Ганны Лапунёнак, Алега Сініцы, Каці Козіч з Пастаўскага раёна, Алы Дудкевіч з Браслава, Арсена Стадольніка з в. Параф'янава Докшыцкага раёна, Тані з Глыбокага(на жаль, яна неразборліва напісана сваё прозвішча), Ірыны Чэмка з в. Дзераўное Стаўбцоўскага раёна і яе цёзкі Ірыны Гурневіч з гэтай жа вёскі, Веранікі Валадзько са Стаўбцоў, Алены Зіноўкі з Вілейкі і многіх іншых. Многія з вас дасылаюць нам свае малюнкі, некаторыя з іх мы пастараемся пазней выкарыстаць у нашым часопісе. А Вераніка Валадзько прыслала нам цікавую выразку з газеты з абразкам Звеставання, які берагла яе бабуля і які некалі быў для яе вялікай радасцю.***

***Дзякуй усім вам, сябры, за змястоўныя адказы, нават, калі хтосьці і памыліўся, пішучы іх – не бяда. Галоўнае, што мы ўсе молімся Ружанец. Праўда, некаторыя з вас часам забываюцца напісаць свой адрас, а то і павітацца са мной. Напэўна, тыя хлопчыкі і дзяўчынкі вельмі спяшаюцца... Нагадваю, што першыя вынікі конкурсу мы падвядзём пасля пятай таямніцы.***

***А цяпер я зноў запрашаю вас са мною памаліцца і паразважаць над чарговай таямніцай. Чакаю вашых новых лістоў з адказамі!***

Частка першая – радасная
Таямніца чацвёртая

## Ахвяраванне Езуса Пану Богу






### Пытанні да разважанняў

1. На памятку якой падзеі ў Ізраілі быў устаноўлены звычай ахвяравання першароднага сына Богу?
2. Маці Божую чакала вялікае шчасце, але разам з тым і вялікае цярпенне. Хто і якімі словамі сказаў ёй пра гэта ў часе ахвяравання?
3. На абразах Ахвяравання Панскага святы Язэп часта трымае ў руках дзвюх птушак. Чаму?
4. Колькі гадоў было прарочыцы, якая ў той дзень таксама была ў святыні? Назавіце яе імя.
5. У які дзень Касцёл святкуе Ахвяраванне Панскае? Як называюцца свечкі, якія пасвячаюцца ў гэты дзень?





*Маці Божая! Ты прынесла свайго Сына і добраахвотна ахвяравала Яго Пану Богу. Навучы, наша добрая Маці, каб і мы заўсёды ахвяроўвалі Пану Богу самае дарагое, што ў нас ёсць – наша жыццё. Няхай жа і мы прычынімся да збаўлення людзей з цемры грэху і вечнай смерці. Маці Божая! Як Ты падала Тваёйго Сына мудраму старцу ў святыні, гэтак жа падай Яго і нам. І няхай Твой Сын будзе для нас вечным жыццём!*

***Ойча наш...***

***10 Вітай, Марыя...***

***Хвала Айцу...***

*О мой Езу! Прабач нам нашыя грахі, захавай нас ад агню пякельнага, правядзі ўсе душы да неба і асабліва памажы тым, каму найбольш патрэна Твая міласэрнасць.*

### Чым я магу дапамагчы Езусу?

*"Шкада, што не было мяне тады, калі Езуса вялі на Галгофу. Я абавязкова дапамог бы Яму несці крыж. Альбо вызваліў бы Яго, разагнаўшы злых людзей".*

*Так думае, мабыць, не адзін смелы хлопчык альбо смелая дзяўчынка.*

*Але ўзгадаем словы Езуса: "Тое, што зрабілі для маіх найменшых – для мяне зрабілі". Давайце ж разам папросім Езуса:*

*– Езу Хрыстэ! Вельмі люблю Цябе і хачу дапамагчы Табе несці крыж.*

*Дай мне добрыя вочы, каб я заўсёды бачыў тых, каму патрэбна мая дапамога.*

*Дай мне добрыя вушы, каб я чуў просьбы людзей.*

*Дай мне добрае сэрца – каб я любіў усё тое, што Ты стварыў, і заўсёды ішоў на дапамогу тым, каму яна патрэбна.*

---

---

---

---

*А цяпер запішы на пустых лінейках свае добрыя ўчынкі. Спадзяюся, табе не хапіла лінеек? Не бяда! Можаш дапісаць усё, што засталося, на чыстым аркушы паперы.*

Марыська

*В Е Р А   Н А   Ш Т О Д З Е Н Ь*

***Паважаныя чытачы! На старонках нашага часопіса вы ўжо мелі магчымасць пазнаёміцца з вершамі ксяндза Яна Твардоўскага. Сёння мы прапануем вашай увазе развагі гэтага святара пра тое, якое месца ў нашым жыцці павінна займаць малітва.***

# МАЛІТВА НЕ ШУКАЕ СЛОЎ

***Гутарка з ксяндзом Янам Твардоўскім***

***— Вы служыце ксяндзом ужо больш за сорак гадоў. Гэта значыць, што больш за сорак гадоў Вы штодня справуеце Святую Імшу і прамаўляеце літургію гадзінаў, так званы брэвяж, што з'яўляецца абавязкам для ўсіх святароў. Як гэта паўплывала на Вашу штодзённую малітву?***

— Ксёндз — чалавек малітвы. Малітва чаканая ад кожнага, а асабліва ад ксяндза. Размова з Богам, узнясенне душы да Бога, услухоўванне ў Бога — вось што такое малітва. А новы катэхізіс уносіць і яшчэ адну дэфініцыю малітвы: малітва — гэта спатканне двух моцных жаданняў, таго, чаго прагне ад мяне Бог, і таго, чаго я прагну ад Бога. Мне ж здаецца, што малітва — гэта адчуванне Божай Прысутнасці, пастаяннае ўсведамленне таго, што Бог ёсць са мною. Думаю, гэта самае важнае. Я імкнуся ўзбуджаць у сабе ўсведамленне, што Ён ёсць пры мне. І тады ўжо не так важна, ці я прамаўляю да Бога, ці чытаю нейкія малітвы. Маці Божая не чытала брэвяжа, Яна была побач з Езусам.

Некаторыя сцвярджаюць, што ўсё нашае жыццё — ужо малітва. Ды, аднак жа, Пан Езус аддаляўся і маліўся на самоце, значыць, Яму быў патрэбны час для тае малітвы. Евангелле кажа, што Ён цэлую ноч правадзіў на малітве. Значыць, апрача ўсведамлення пастаяннага знаходжання з Богам, патрэбныя яшчэ і малітвы, якія трэба прамаўляць вуснамі. Таму, да прыкладу, ксёндз і мае брэвяж. І яго, дарэчы, прамаўляюць не толькі дзеля таго, што ёсць такі абавязак, але і дзеля таго, каб спаткацца з Богам. Важна, каб брэвяж не быў толькі абавязкам, што не заўсёды ўдаецца.

Ксёндз моліцца не толькі ў часе Святой Імшы альбо чытаючы брэвяж, але і тады, калі ўдзяляе разграшэнне, свенціць ваду, памяшканне альбо хрысціць дзіця. Усё гэта малітва. Яна патрэбная, як сон. Бывае, калі чалавек доўга не спіць, ён пачынае слабець. Гэтак жа бывае з ім, калі ён нейкі час не моліцца. Малітва — жыццё святара. Ёсць яшчэ і малітва прыватная, размова з Богам сам-насам. Калі гэтай прыватнай, асабістай малітвы ў святара няма, то тады і літургічная — Святая Імша, брэвяж — няпоўная. Вельмі важны гэты кантакт з Богам праз усведамленне, што Ён ёсць пры мне ў часе маёй размовы з Ім, у часе майго ўслухоўвання ў тое, што Ён кажа мне праз Святое Пісанне альбо праз людзей, якія да мяне прыходзяць. Важна не працягласць малітвы, але тое, каб яна стала для мяне чымсці найважнейшым на працягу дня, нават калі гэта будзе ўсяго нейкіх пяць хвілін.

Калі я ішоў вучыцца ў семінарыю, мне здавалася, што малітва будзе для мяне самаю лёгкаю справаю. Думаў, што цяжкаю будзе навука: габрэйская мова, лаціна, філасофія... Думаў, што нялёгка будзе падпарадкоўвацца пэўным семінарыйным патрабаванням. А аказалася, што і ў семінарыйным, і ў святарскім жыцці найцяжэйшаю для мяне стала малітва. Мы вельмі часта няўважлівыя, і не толькі грэх засланяе нам Пана Бога, але і стома, хвароба, розныя ўяўленні, клопат. Малітва вымагае вялікай засяроджанасці, таму яна і з'яўляецца найцяжэйшаю, але адначасна і найбольш патрэбнаю, бо без яе святар не можа жыць.

У тлуме нашага штодзённага жыцця я імкнуся суцішыцца. Гэтая ціша і ёсць першая ласка, бо нашыя жаданні і пачуцці пастаянна крычаць аб чымсці. Трэба знайсці цішыню дзеля таго, каб знайсці і сябе, і сваё пакліканне на кожны дзень. Часта мы цешымся зусім неістотным, альбо перажываем, трацім нервы з-за чагосьці малаважнага. Усведамленне таго, што я святар, паказвае мне, чым я з'яўляюся ў гэтым свеце і якія прычыны ў мяне для радасці. Калі не разумею сябе, бачу сваю бязраднасць і вялікую слабасць, тады я і знаходжу Бога. Усведамленне сваёй нэндзы вядзе мяне да Езуса, адзін Ён можа мне дапамагчы. Бо хто такі святы? Той, хто дазваляе Богу дзейнічаць праз яго. Бог хоча ісці ў свет праз чалавека. Ён не прыйшоў праз анёла, але праз чалавека — праз Маці Божую. Святар павінен добра ўсведамляць, што ён не павінен перашкаджаць Богу. А перашкоды часам ёсць — эгаізм, пыха... Вельмі хацелася б, каб Бог праз мяне "пранікаў" у свет. Гэта вельмі цяжка. І ад ксяндза патрабуецца больш.

У вольныя хвіліны я стараюся маліцца за тое, што буду рабіць: за казанні, якія буду казаць, за споведзі, бо не заўсёды лёгка засяродзіцца. У часе ж вакацый, калі часу больш, імкнуся маліцца за ўсё тое, што буду рабіць у бліжэйшы час. І тады, калі той час настае, калі бываю іншы раз разбіты, знерваваны, радуюся, што некалі я за гэты самы час маліўся. Калі раніцай разважаю над нейкім тэкстам, то потым маю гатовыя думкі для размовы з людзьмі, для споведзяў. Хтосьці навучыў мяне вельмі складаным рэчам, якія не заўсёды мне ўдаюцца, бо іншы раз перавышаюць мяне. Навучыў дзякаваць за непрыемнасці, якія надараюцца ў маім жыцці. Бо калі прыходзіць нейкае прыніжэнне, то першаю прыбягае злосць з тае прычыны, што мяне пакрыўдзілі. Але калі прыняць гэта ад Пана Бога, то да чалавека прыходзяць новыя сілы. Ніколі не забуду, як мяне несправядліва пакрыўдзілі на адным сходзе. Мяне тады літаральна калаціла ад злосці, але па дарозе дахаты прыйшла ў галаву думка, што гэта ж ад Пана... І мяне адразу агарнуў нейкі дзіўны спакой. Евангелле кажа, як Езус у Садзе Аліўным маліўся: "не мая воля, але Твая воля", і анёл умацаваў Яго. У часе крыўды ніколі не патраплю маліцца так, як павінен, таму абапіраюся тады не на сябе, але на Божую ласку.

***— Ці змяняецца Вашая малітва з цягам часу?***

— Молячыся, чалавек вырастае да штораз глыбейшай малітвы. Прымаць Святую Камунію — гэта прымаць Езуса з Яго патрабаваннямі, а не толькі дзеля таго, каб атрымаць тое, чаго я прашу, альбо дзеля таго, каб супакоіцца. Мы прымаем Езуса, бо хочам быць уключаныя ў Яго жыццё, жыццё любові, ахвяры, святасці. Таму, на жаль, мы часта не дасканала прымаем Святую Камунію, святары таксама.

***— Наколькі Ваша творчасць звязана з малітвай і з малітвы паходзіць?***

— Верш — гэта пэўны пошук слова, а малітва не шукае слоў. Як мне, то вершы павялічваюць духоўнае багацце, даюць перажыванне, узрушэнне, якія дапамагаюць у малітве. Святы Ян ад Крыжа, калі не знаходзіў слоў, каб выказаць Божую таямніцу, паслугоўваўся паэзіяй, бо яна бліжэй да таямніцы, чымсці разумовыя паняцці.

***— Каго са святых Вы найбольш любіце?***

— Святую Тэрэсу ад Дзіцятка Езус.

***— А якую малітву?***

— *"Езу, давяраюся Табе"*, а таксама з Евангелля святога Яна: *"Той, хто мяне паклікаў, не пакіне мяне на самоце".*

***— І на заканчэнне: што ксёндз жадаў бы сказаць усім тым, хто шукае Бога?***

— Каб усе яны шукалі любові. Аднак, ведаючы, што чалавечая любоў знаходзіцца пад пагрозай фальшу, шукалі праўдзівай любові, якая вядзе да Бога. Чалавек на працягу ўсяго свайго жыцця жадае і прагне любові. Але нават калі ён знойдзе яе, сустрэне кагосьці, хто яго палюбіць, то ўсё адно той чалавек некалі памрэ. А прага любові застанецца. Любоў — вось найпрасцейшая дарога да Бога. Пачынаць можна з вельмі недасканалай любові, якая паступова будзе ачышчацца. Найгорш, калі чалавек зусім не любіць.

Шчасце — любіць і быць любімым. Але ўсю поўню такога шчасця можна знайсці толькі ў Богу, бо нават у найбольшай чалавечай любові ёсць самотнасць. А смерць — гэта спатканне з Богам, які мяне любіў, а я мог таго і не разумець, і якога я люблю, не ведаючы пра тое.

*Размаўляла Марыля АЖАПОЎСКАЯ*
*Часопіс "Ліст" № 9, 1993 г.*

*Пераклад І.БАРТКЕВІЧ*

# Пісанкі Галіны Пілецкай



Не раз у хвіліны адпачынку гартаў я тоўстыя сшыткі з пісанкамі, якія намалявала Галіна Пілецкая, мая жонка. Яна аддала гэтай працы многа гадоў, уклала ў іх шмат сілы, цярпення, умельства, выявіўшы, можна смела сказаць, немалы талент мастака.

Яна – чалавек апантаны, аддаецца рабоце ўсёй душою, яе проста цяжка адарваць ад свайго занятку, каб урэшце прымусіць зрабіць адпачынак. "Я адпачываю, робячы пісанкі",– кажа яна. Але гэта салодкі падман. Яна, як і кожны чалавек, стамляецца ад працы. І апошнім часам яе ўжо стала падводзіць здароўе. Мо таму яна і спяшаецца.

Я пытаюся ў яе: "Калі ты ўжо скончыш свае пісанкі? Іх у цябе, мусіць, больш за чвэрць мільёна. Час закругляцца, даводзіць да "бляску" тыя, што ўжо наклееныя, збольшага адпрацаваныя. А ты ўсё яшчэ выразаеш новыя, наклейваеш, склейваеш, дапасоўваеш нейкія кавалачкі. Дакуль гэта можа цягнуцца?"– кажу я ўжо з раздражненнем.

"Не магу бачыць, як прападае матэрыял на пісанкі... Няўжо ты не разумееш душы мастака? Сам жа літаратар, гаворыш пра свабоду творчасці, а мне забараняеш?"– адказвае яна з крыўдай у голасе.

Што на гэта можна сказаць?

Хай малюе, колькі хапае ў яе сілы. Хай жывуць беларускія пісанкі. Хай весяляць нашыя душы, нагадваюць нам пра светлае Хрыстова Уваскрэсенне, пра Вялікдзень.

*Уладзімір Дамашэвіч*

***На 4-ай с. вокладкі: пісанкі Г.Пілецкай, малюнак Г.Хінкі-Янушкевіч.***

**Дарагія чытачы!**

Часопіс "Ave Maria" выдаецца, дзякуючы Вашым ахвяраванням і ахвяраванням сяброў рэдакцыі. Калі Вы жадаеце пераслаць ахвяраванне на часопіс, то зрабіць гэта можна на **р/р Катэдральнага касцёла Найсвяцейшай Панны Марыі № 3015213290010, код 764 Гарадской дырэкцыі "Белбізнесбанк", г. Мінск.** Просім абавязкова ў графе "Для пісьмовага паведамлення" пісаць: **Ахвяраванне на "Ave Maria".**

«Ave Maria»
Сакавік-красавік № 3-4 (41-42) 1998
Заснавальнік –
Мінска-Магілёўская архідыяцэзія
Часопіс зарэгістраваны
ў Дзяржкамітэце
Рэспублікі Беларусь па друку.
Рэгістрацыйны № 225.
Рэдакцыйная рада
Надрукавана ў друкарні "НЭСІ",
220141 г.Мінск, вул.Жодзінская, 18.
Зак. 6. Наклад 9 000 экз.
Адрас рэдакцыі:
220030, г.Мінск, пл.Свабоды, 9,
тэл./факс: (0172) 26-90-92
Архікатэдральны касцёл
Імя Найсвяцейшай Марыі Панны
Часопіс выдаецца
на ахвяраванні вернікаў
Распаўсюджваецца бясплатна

## У НУМАРЫ







## КАСТРЫЧНІК

| | | |
|---|---|---|
| 1 | чц | Тэрэсы ад Дзіцятка Езус, Рамана |
| 2 | пт | Анёлаў Апекуноў, Тэафіла |
| 3 | сб | Яна, Кандзіды |
| 4 | нд | **XXVII нядзеля звычайная** Францішка з Асізі |
| 5 | пн | Флёры, Фаустыны, Райманда |
| 6 | аў | Брунона, Артура |
| 7 | ср | **НМП Ружанцовай,** Сяргея, Юстыны |
| 8 | чц | Пелагеі, Брыгіды, Валерыі |
| 9 | пт | Вінцэнта, Дыянізія |
| 10 | сб | Яна, Герэона |
| 11 | нд | **XXVIII нядзеля звычайная** Аляксандра, Эмануэлі |
| 12 | пн | Эдвіна, Серафіна |
| 13 | аў | НМП Фацімскай, Эдварда, Тэафіла, Ганарата Казмінскага |
| 14 | ср | Калікста, Малгажаты |
| 15 | чц | Тэрэсы ад Езуса, Герарда |
| 16 | пт | Ядвігі |
| 17 | сб | Ігната |
| 18 | нд | **XXIX нядзеля звычайная** Лукі, Пятра |
| 19 | пн | Яна, Паўла |
| 20 | аў | Яна |
| 21 | ср | Уршулі, Якуба |
| 22 | чц | Кардулі, Даната |
| 23 | пт | Севярына, Яна |
| 24 | сб | Антонія |
| 25 | нд | **XXX нядзеля звычайная** Вільгельміны, Інгі |
| 26 | пн | Дзімітра, Эварыста |
| 27 | аў | Сабіны, Івоны |
| 28 | ср | Сымона, Юды Тадэвуша |
| 29 | чц | Філіцыяна, Віялеты |
| 30 | пт | Прамыслава, Зенобіі |
| 31 | сб | Вольфганга, Альфонса |

### *Малітва да Маці Божай Балеснай*

*О Маці Божая Балесная, незлічоныя грахі мае прыбілі да страшнага Крыжа ўмілаванага Сына Твайго Езуса і як вострыя мячы паранілі Найсвяцейшае Сэрца Тваё. Я не варты называцца дзіцём Тваім, але веру, што не адкінеш мяне, бо Езус з Крыжа ўказаў мне Цябе як Маці маю. О Пані Балесная, Маці Міласэрнасці, Пасрэдніца Ўсіх Ласкаў, не дазволь, каб я калі-небудзь адвярнуўся ад Езуса і ад Цябе.*

## ЛІСТАПАД

| | | |
|---|---|---|
| 1 | нд | **XXXI нядзеля звычайная** Усіх Святых |
| 2 | пн | **Дзень Задушны** |
| 3 | аў | Марціна, Хуберта, Сільвіі |
| 4 | ср | Кароля, Эмерыка |
| 5 | чц | Альжбеты, Захарыя |
| 6 | пт | Леанарда, Меланія |
| 7 | сб | Эрнэста, Энгельберта |
| 8 | нд | **XXXII нядзеля звычайная** Готфрыда, Багдана |
| 9 | пн | Жаны, Людвіка |
| 10 | аў | Лявона, Андрэя |
| 11 | ср | Марціна, Тэадора |
| 12 | чц | Язафата, Крыстыны, Вітаўта |
| 13 | пт | Бенедыкта, Ісаака, Яна, Мацвея |
| 14 | сб | Серафіна, Рогера |
| 15 | нд | **XXXIII нядзеля звычайная** Альберта, Леапольда |
| 16 | пн | НМП Вастрабрамскай Гертруды, Эдмунда, Малгажаты |
| 17 | аў | Альжбеты, Рыгора |
| 18 | ср | Караліны, Рамана |
| 19 | чц | Саламеі |
| 20 | пт | Рафала, Анатоля, Эдмунда |
| 21 | сб | Ахвяраванне НМП, Януша |
| 22 | нд | **Хрыста – Валадара Сусвету** Цэцыліі, Бенігны |
| 23 | пн | Клеменса, Андрэя |
| 24 | аў | Флёры, Пратазія |
| 25 | ср | Кацярыны, Марыі, Эразма |
| 26 | чц | Леанарда, Сільвестра |
| 27 | пт | Валяр'яна, Максіма |
| 28 | сб | Здзіслава, Стэфана, Якуба |
| 29 | нд | **І нядзеля Адвэнту,** Сатурніна |
| 30 | пн | Андрэя, Юстыны |

## СНЕЖАНЬ

| | | |
|---|---|---|
| 1 | аў | Наталлі, Эдмунда, Элігія |
| 2 | ср | Паўліны, Рафала, Бланкі |
| 3 | чц | Францішка Ксавэрыя, Касьяна |
| 4 | пт | Барбары, Яна |
| 5 | сб | Крыспіны, Сабы |
| 6 | нд | **II нядзеля Адвэнту** Мікалая, Ярэмы |
| 7 | пн | Амвросія, Тэадора |
| 8 | аў | **Беззаганнага Пачацця НМП,** Марыі |
| 9 | ср | Вяслава, Леакадзіі |
| 10 | чц | Юліі, Эўлаліі |
| 11 | пт | Дамазія, Вальдэмара |
| 12 | сб | Жаны, Аляксандра |
| 13 | нд | **III нядзеля Адвэнту** Люцыі, Атыліі |
| 14 | пн | Яна ад Крыжа, Венанцыя |
| 15 | аў | Цэліны, Валяр'яна |
| 16 | ср | Здзіславы, Адэлаіды |
| 17 | чц | Алімпіі, Лазара |
| 18 | пт | Багуслава, Грацыяна |
| 19 | сб | Дар'юша, Элеаноры |
| 20 | нд | **IV нядзеля Адвэнту** Зэфірына, Вінцэнта |
| 21 | пн | Пятра |
| 22 | аў | Зянона, Францішкі, Юдзіты |
| 23 | ср | Вікторыі, Івона |
| 24 | чц | **Вігілія Божага Нараджэння** Адама і Евы |
| 25 | пт | **Божае Нараджэнне** Анастазіі |
| 26 | сб | Сцяпана, Дыянізія |
| 27 | нд | **Святой Сям'і**, Яна |
| 28 | пн | Святых немаўлят |
| 29 | аў | Тамаша |
| 30 | ср | Яўгена, Кацярыны |
| 31 | чц | Сільвестра, Меланіі |

*Упрасі мне жывую веру, дзіцячы давер, шчырую любоў да Езуса і да Цябе, агіду да грахоў і сардэчны жаль за іх.*

*Няхай памяць пра Твой боль умацоўвае мяне ў дні скрухі, пакутаў, хваробаў і будзе суцяшэннем у хвіліну смерці.*

*О Маці Балесная, дзякую Табе за Тыя слёзы, якія Ты над грэшным светам і нада мною выплакала. Дай, каб я хоць часткова мог адплаціць за крыўды, нанесеныя Сэрцу Твайго Сына, і суцешыць Тваё Сэрца, параненае сямю мячамі.*

*О ласкавая, о літасцівая, о Балесная Панна Марыя і Маці наша. Амэн.*